Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 38 (4787) 26 верасня 2014 г.


Тайна закапаных рукапісаў 7


Жанчыны з мінулага 13


Жар-птушка прыляцела ў Мінск! 14


Што будзе пасля лета? 16

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў закрытага акцыянернага таварыства «Інтэрфакс» з 25-годдзем стварэння медыяхолдынга. «За гэты час вы прайшлі шлях ад першага ў Савецкім Саюзе недзяржаўнага агенцтва навін, што ўстанавіла прынцыпова новыя стандарты журналістыкі, да буйнейшай на тэрыторыі Садружнасці Незалежных Дзяржаў Міжнароднай інфармацыйнай групы, якая дынамічна развіваецца», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Сёння на ІІ Нацыянальным форуме «Музеі Беларусі», які праходзіць у Гомелі, свае экспазіцыі прадставілі каля 100 дзяржаўных, ведамасных і грамадскіх арганізацый, а таксама кампаніі, якія працуюць у сферы музейных тэхналогій і індустрыі. Экспазіцыі сфарміраваны па рэгіянальным прынцыпе, асобным блокам прадстаўлены нацыянальныя музеі і музеі-запаведнікі. Тут сабраліся спецыялісты, каб абмеркаваць актуальныя пытанні музейнай дзейнасці, вызначыць перспектыўныя напрамкі яе развіцця, прадставіць гасцям і наведвальнікам лепшыя праекты, праграмы і публікацыі за апошнія два гады.

✔ Выстаўка «Кветкі для Парыжа» беларускага мастака Віктара Альшэўскага адкрылася ў прэстыжным клубе «Cercle de l'Union Interalliée». Падчас вернісажа прэзентавалася няскончаная копія партрэта Марыі Шымаўоўскай (віртуознай піяністкі і кампазітара першай паловы XIX ст., цешчы Адама Міцкевіча) пэндзля Валенція Ваньковіча, выкананая В. Альшэўскім з арыгінала, які знаходзіцца ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы.

✔ У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася перасоўная выстаўка Пасольства Японіі «Традыцыі і культура Японіі», якая стала часткай фестывалю «Японская восень у Беларусі». Экспазіцыя суправаджаецца кніжнай выстаўкай, на якой прадстаўлена больш як 100 выданняў японскай тэматыкі з фонду бібліятэкі. Асобнае месца займаюць кнігі пра Іосіфа Гашкевіча, ураджэнца Беларусі, першага расійскага консула ў Японіі, аўтара японска-рускага слоўніка.

✔ Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны сумесна з гомельскім філіялам НАН Беларусі праводзяць чарговыя Міжнародныя навуковыя чытанні «Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў славянскіх літаратурах», прысвечаныя памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі. Разглядаюцца актуальныя праблемы спадчыны творцы, яе месца ў сучасным літаратурным працэсе, перспектывы літаратуры класічнага тыпу ў эпоху глабалізацыі.

✔ У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя галаграфічнага малюнка слуцкага пояса, створанага дзякуючы сучасным тэхналогіям. Прэзентацыя была сумешчана з прэс-канферэнцыяй, прысвечанай новаму праекту тэлеканала «Беларусь 3» — дакументальнаму цыклу «Музеі Беларусі». Першыя серыі цыкла распавядуць пра музеі Мінска і Мінскай вобласці — лідараў па колькасці такіх устаноў. Далей размова пойдзе пра рэгіянальныя музеі. Першы выпуск будзе ў эфіры 4 кастрычніка.



Фота Івана Прышчэпы

Сцэна са спектакля «Гамлет. Прынц PEACE» (Масква).

# «Куфар»: перазагрузка

**Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у адзінаццаты раз распачаў Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар. БДУ — 2014». У форуме бяруць удзел лепшыя студэнцкія тэатры і вядомыя тэатральныя дзеячы з 15 краін свету: Албаніі, Беларусі, Бельгіі, Бразіліі, Вялікабрытаніі, Германіі, Грузіі, Ірана, Італіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Румыніі, Украіны, Харватыі.**

Урачыстае адкрыццё фестывалю адбылося 22 верасня ў Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў. Афіцыйнай часткі папярэднічала тэатралізаваная акцыя «Арт-аўтобус» каля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Аўтобус з маляўнічымі расцяжкамі з лагатыпам фэсту здзейсніў тры прыпынкі: каля вузаў БДАТУ і БНТУ і на прыпынку «Плошча Якуба Коласа». Акцёры ў касцюмах персанажаў конкурсных спектакляў раздавалі мінчанам і гасцям сталіцы запрашальнікі і праграмкі «Куфра». Асноўнае дзеянне акцыі разгарнулася на прыступках і ў фае Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў.

Адразу ж пасля афіцыйнай часткі адкрыцця была прадстаўлена першая пастаноўка форуму — монаспектакль «Наташына мара» тэатра «LAISVASIS TEATRAS» (Літва). Гэта гісторыя кахання і злачынстваў Наталлі Банінай, дзяўчынкі з дзіцячага дома. Падлетак, які вырас у атмасферы, дзе за шчасце трэба змагацца, дзе шлях трэба прабіваць і сілай даказваць правату, закахаўся ў журналіста мясцовай газеты. Можа, гэта шчаслівы квіток у будучыню? Або гэта шлях да чарговага расчаравання, якога і так нямала ў жыцці дзяўчыны? Адказы на пытанні гледачы атрымалі напрыканцы спектакля.

«Тэатральны куфар» — унікальны ва Усходняй Еўропе фестываль студэнцкіх тэатраў. Дзякуючы яму на сталічных сцэнах сваё мастацтва прадэманстравалі больш як дзве тысячы акцёраў.

«КуфарДрамаЛаб» — праграма 2013 года, на якой адбываліся чыткі трох п'ес сучасных беларускіх аўтараў. Сёлета гледачам былі прадэманстраваны вынікі праекта: спектакль «Гэта ўсё яна!» у сумеснай пастаноўцы тэатра «На балконе» (БДУ) і Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Перад гледачамі паўстала пытанне: «Чаму мы сёння не чуем блізкіх, родных людзей?» З безліччу інтэрнэт-сяброў мы застаёмся адзінокімі… Маці страціла ўсякі кантакт з адзіным родным чалавекам — сынам. Страх за яго будучыню і лёс вымусілі яе звярнуцца да сучасных тэхналогій. Маці ўвайшла ў яго свет пад чужым імем з сацыяльнай сеткі… П'есу напісаў Андрэй Іванаў, пастаноўку ажыццявіў Аляксандр Марчанка, ролю маці выканала адна з вядучых актрыс РТБД Людміла Сідаркевіч.

«Куфар.by» — дэманстрацыя лепшых дасягненняў беларускіх студэнцкіх тэатраў. Большасць пастановак не патрапілі ў асноўную конкурсную праграму і былі паказаны 21 верасня. Спектакль «Маўзер» тэатра «Галава-нага» (Мінск) уяўляў сабой сцэну смерці з флэш-бэкамі. Рэвалюцыянер А (у ранняй версіі п'есы яго называлі Маўзер) павінен апраўдаць сябе перад хорам рэвалюцыйнага трыбунала. У першыя гады панавання савецкай улады ён як перакананы салдат удзельнічаў у чырвоным тэроры ў горадзе Віцебску, але гэтая «праца» стала для яго невыноснай і прывяла да злачынства. Пастаноўка «Клуб выходнага дня» тэатра-студыі «Калі б…» (Гомель) распавяла пра амерыканскіх падлеткаў, якіх пакаралі за правіны і прымусілі пісаць сачыненне пра саміх сябе. Слова за слова, і гледачы сталі сведкамі бурных спрэчак і сардэчных адкрыццяў школьнікаў. Сачыненне напісана, але дарослыя прачытаюць і ацэняць яго адпаведна сваім уяўленням… У спектаклі «Наперад, кацяня!» тэатра «АРТ» (Полацк) дзеянне адбывалася на сметніку, дзе жылі «адушаўлёныя» і «неадушаўлёныя» істоты: стары адпавокі Кацяра і маленькае кінутае Кацяня, Рондаль без вечка і Чаравік без падноска, Карасік без плаўнікоў і Матылёк без крылаў, — а вяршынствавала ў гэтай кампаніі Муха. І ўсё іх ціхае жыццё парушылася са з'яўленнем новага героя: на сметніку вырас Дзьмухавец… Акцёры тэатра-лабараторыі «Insight» (Мінск) у пастаноўцы «За зачыненымі дзвярыма» разважалі над пытаннем: якое жыццё пасля смерці, у пекле? Кожны чалавек хоць раз задумваўся пра гэта. Пекла — не гарачыя патэльні і катаванні, а хаос, жах і незваротнасць…

Заканчэнне чытайце на стар. 14 ▶

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# 21+

**Члены Прэзідыума пісьменніцкай арганізацыі падвялі вынікі свята ў Заслаўі. І дадалі ў свае шэрагі 21 творцу.**

Станоўчыя зрухі ў тым, што датычыць удзелу творцаў у святкаванні Дня пісьменства, адзначыў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. Ён жа падкрэсліў важнасць своечасовага і шырокага інфармавання пра падзеі з жыцця літаратараў у СМІ. Падчас пасяджэння Прэзідыума было ўхвалена рашэнне аб стварэнні помніка Васілю Быкаву ў Мінску і наданні імя пісьменніка адной са сталічных вуліц.

Акрамя таго, у СПБ былі прыняты шэраг новых членаў (звесткі пра іх з'явяцца ў чарговых нумарах «ЛіМа»), абмеркаваны кандыдаты на атрыманне штогадовай Прэміі Прэзідэнта ў галіне літаратуры, Падзякі Кіраўніка дзяржавы і дзяржаўных узнагарод. Творцам, якія з'яўляюцца членамі Беллітфонду, нагадваецца таксама пра своечасовую выплату ўзносаў.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

*Стасункі*

# Нашы ў Ашхабадзе

IX Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш і навуковая канферэнцыя «Кніга — шлях да супрацоўніцтва і прагрэсу» праходзіць у Ашхабадзе. У госці да туркменскіх паліграфістаў, кнігавыдаўцоў паказаць свае здабыткі выправілася і прадстаўнічая дэлегацыя з Мінска: супрацоўнікі Міністэрства інфармацыі, прадпрыемства «Макбел», выдавецтва «Мастацкая літаратура», Выдавецкага дома «Звязда». Беларусы прадставяць у Ашхабадзе кнігі, якія выдадзены ў Беларусі ў апошні год. Правядуць шэраг прэзентацый, аўтограф-сесій, пазнаёмяць туркменістанцаў з адметнымі выданнямі.

Міжнародная выстаўка-кірмаш, якая неаднойчы прыцягвала ўвагу Беларусі (наша краіна была і ганаровым госцем на гэтым традыцыйным мерапрыемстве), — яшчэ і ўнікальная магчымасць пазнаёміцца з выдаўцамі краін Азіі, якія заўсёды прыязджаюць у Ашхабад.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Сузор'е творцаў

**Дастаткова прадстаўнічым выданнем падаецца энцыклапедычны даведнік «Сузор'е беларускага памежжа: беларусы і народжаныя ў Беларусі ў суседніх краінах» (Мінск, «Энцыклапедыкс», 2014). Больш як 1650 біяграфічных артыкулаў выкладзена пад адной вокладкай.**



*Фота Наталлі Асмола*

*Адам Мальдзіс.*

Сярод матэрыялаў пра нашых суайчыннікаў значнае месца займаюць прысвячэнні пісьменнікам. Напрыклад, Літва прадстаўлена такімі паэтамі, празаікамі, публіцыстамі, як Аляксей Анішчык, Алег Аблажэй, Антон Антановіч, Мікалай Анцукевіч, Зоська Верас, Лявон Вітан-Дубейкаўскі і інш. Латвія — Эдвардам Вайвадзішам, Станіславам Валодзькам, Кастусём Езавітавым ды інш. Шмат хто вядомы па іншых энцыклапедычных выданнях, найперш — па 6-томным біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі». Але многія імёны ці не ўпершыню ўводзяцца ў кантэкст айчыннай энцыклапедычнай літаратуры.

Асабліва гэта датычыцца ўраджэнцаў Беларусі, якія засведчылі сябе ў рускай літаратуры. Прынамсі, дзіцячы празаік Уладзімір Жалезнікаў (нарадзіўся ў Віцебску ў 1925 г.), паэтэса Ніна Жыбрык (нарадзілася ў 1933 г. у Дзяржынскім раёне), празаік Міхаіл Златагораў (нарадзіўся ў Мінску ў 1909 г.).

Амаль невядомай асобай з'яўляецца ў Беларусі перакладчыца Ідалія Кананец (нарадзілася ў Віцебску ў 1928 г.). А між тым яна пераклала на рускую мову прозу Я. Скрыгана, М. Гарэцкага, Я. Коласа, Г. Марчука ды інш. Не даводзілася раней сустракаць імя рускага празаіка, драматурга Віталя Квасніцкага (1898 — 1941), які нарадзіўся ў Мінскай губерні. Пра яго расказвае гомельскі даследчык Рыгор Андрэявец, дарэчы, адзін з самых актыўных аўтараў даведніка. Адкрыццём з'яўляецца і другі персанаж Р. Андрэяўца — празаік Барыс Левін (нарадзіўся ў Віцебскай губерні ў 1899 г.), аўтар шматлікіх кніг, выдадзеных у 1920 — 1930-я гг. Барыс Міхайлавіч загінуў пад Суамусальмі ў савецка-фінскую вайну 1940 г.

Шэраг цікавых персаналій прысвяціла рускім пісьменнікам, ураджэнцам Беларусі, Аксана Спрынчан. Размова — пра дзіцячага празаіка Анатоля Машкускага (нарадзіўся ў Магілёве ў 1925 годзе), пісьменніцу Надзею Надзеждзіну (нарадзілася ў Магілёве ў 1925 годзе), нарысіста Паўла Падляшчука (нарадзіўся ў Брэсце ў 1907 г.) ды інш.

«Сузор'е беларускага памежжа», створанае калектывам дасведчаных аўтараў пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук Адама Іосіфавіча Мальдзіса, — выдатны ўнёсак і ў справу даследавання прысутнасці беларускай культуры ў свеце і вывучэння беларускіх лёсаў у прыгожым пісьменстве суседніх краін у прыватнасці.

**Максім ЖАЛЕЗІНКА**

# Прастора горада

Урачыстае адкрыццё Дзён еўрапейскай спадчыны адбылося ў Мінскай гарадской ратушы. У Беларусі гэтае свята ладзіцца з 18 красавіка 1993 года — дня падпісання нашай краінай Еўрапейскай культурнай канвенцыі.

Сёлета свята праходзіць пад дэвізам «Прастора горада: пляцоўка для дзеяння». Такая тэма была выбрана невыпадкова. Кожны еўрапейскі горад мае ўнікальную гісторыю і культуру, выдатныя помнікі мастацтва і архітэктуры. Гісторыка-культурную спадчыну складаюць не толькі матэрыяльныя, але і нематэрыяльныя аб'екты: міфалогія, абрады і святы, імёны славутых людзей, якія жылі на тутэйшай зямлі. «Місія адміністрацыі горада і яго жыхароў — не толькі захаваць гэтыя каштоўнасці, але і памножыць іх, — зазначыў намеснік міністра культуры Беларусі Аляксандр Яцко. — Гісторыка-культурная спадчына павінна быць уключана ў сучасны культурны кантэкст».

Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя буклета, які дэманструе, як сучасны горад можа стаць цікавай арт-пляцоўкай дзякуючы гістарычнаму ландшафту і асаблівай атмасферы. У Вільні, напрыклад, штогод праводзіцца кірмаш народных промыслаў і рамёстваў, у Венецыі — традыцыйны карнавал, а ў Гамбургу, найбуйнейшым прамысловым горадзе Германіі, паstarанна ладзяць мноства культурных фестываляў.

Беларускія гарады не выключэнне. Дастаткова прыгадаць Мсціслаў, дзе праходзяць рыцарскія турніры, ці Гродна, які атрымаў у гэтым годзе статус культурнай сталіцы і прымаў Х Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур. Дарэчы, ужо другі год у Гродне праходзіць скульптурны пленэр па камені, які мае ўсе шанцы стаць традыцыйным. Такія акцыі падкрэсліваюць унікальнасць кожнага горада.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*Канферэнцыя*

# Да вяршынь навукі

Добрай традыцыяй на факультэце беларускай і рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта стала правядзенне Міжнароднай навуковай канферэнцыі, вядомай як Танкаўскія чытанні.

На восеньскі форум сабраліся гуманітарыі з розных краін свету, каб абмеркаваць актуальныя пытанні літаратуразнаўства, мовазнаўства, культуралогіі, прыватных методык і адзначыць дзень нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка.

Імя аднаго з найбольш яркіх і самабытных пісьменнікаў, аўтарытэтнага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча было прысвоена педагагічнаму ўніверсітэту ў 1995 годзе, тады ж упершыню адбыліся Танкаўскія чытанні. Сёлета яны праводзяцца 26 верасня — ужо ў дзявяты раз.

2014 год для навучальнай установы, якая носіць гучнае імя паэта, юбілейны. Канферэнцыя арганічна ўпісалася ў кантэкст маштабных мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю ўніверсітэта. На двайное свята да «танкаўцаў» завіталі госці з Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, навукоўцы з розных рэгіянальных ВНУ нашай краіны, а таксама прадстаўнікі філалагічнай думкі з блізкага і далёкага замежжа. Сярод замежных калег — дырэктар Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Літоўскага эдукалагічнага ўніверсітэта Лілея Плыгаўка, прафесар Бакінскага славянскага ўніверсітэта Тавакюль Шукюрбейлі. Педагагічны ўніверсітэт даўно і актыўна супрацоўнічае з гэтымі навучальнымі ўстановамі.

Танкаўскія чытанні спрыяюць пашырэнню навуковых кантактаў і падтрыманню сяброўскіх сувязей, паляпшаюць імідж педагагічнай адукацыі Беларусі. Гэта яшчэ адна магчымасць заявіць пра ВНУ як пра спрыяльны асяродак для падрыхтоўкі не толькі будучых настаўнікаў, але і маладых вучоных. У IX Танкаўскіх чытаннях удзельнічаюць студэнты, якія займаюцца навуковай працай. Выступленне на адной канферэнцыі разам з вядомымі даследчыкамі стане для іх першай прыступкай да навуковых вяршынь. Працягваючы добрыя традыцыі, некалі яны годна прадставяць свой універсітэт.

**Наталля ЗАЯЦ**

# Сусвет праз чалавека

Актуальныя пытанні літаратуразнаўства разглядаліся на XV Міжнароднай навуковай канферэнцыі, арганізаванай Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы і Універсітэтам у Беластоку.

Навуковая канферэнцыя «Узаемадзеянне літаратур у сусветным літаратурным працэсе. Праблемы тэарэтычнай і гістарычнай паэтыкі» праходзіць раз на два гады ў два этапы ў Гродне і Беластоку з 18 па 23 верасня.

Сёлета ў Гродне сабралася каля 120 прадстаўнікоў з 40 гарадоў пяці дзяржаў. Да ўдзелу былі запрошаны як замежныя, так і айчынныя вучоныя, сярод якіх Валерый Цюпа, Юры Арліцкі, Галіна Тварановіч, Ірына Скарапанава. Праблему канферэнцыі вызначыў антрапалагічны вектар: «Антрапалагічныя рухі як вынік пераломных эпох і іх адлюстраванне ў літаратуры». Загадчыца кафедры рускай і замежнай літаратуры, доктар філалагічных навук, прафесар, арганізатар канферэнцыі Тацяна Аўтуховіч так тлумачыць актуальнасць абранага праблемнага поля: «Можна казаць пра літаратурную антрапалогію, калі літаратура вывучае чалавека ў адзінстве яго цялеснага і духоўнага аблічча, а можна казаць пра антрапалогію літаратуры, калі чалавек у сваёй творчасці ўспрымае і апісвае сусвет. Гэта папулярны кірунак у сучасным літаратуразнаўстве. Цяпер шмат кажуць пра магчымасць антрапалагічнай катастрофы. Свет, у якім мы жывём, згубіў Бога ў ХІХ стагоддзі, да канца ХХ стагоддзя стала відавочным знікненне чалавека. Прычынай гэтага з'яўляецца маса фактараў: палітычныя, ваенныя катаклізмы ХХ стагоддзя. Цяпер усё ўзмацняецца інфармацыйнымі тэхналогіямі. У дзяцей, якія не чытаюць альбо чытаюць толькі інфармацыю з інтэрнэту, гуляюць у камп'ютарныя гульні, адсутнічае сістэмнае ўяўленне пра свет, няма цэласнай сістэмы каштоўнасцей. У Вялікабрытаніі праблема нечытання ўспрымаецца як пагроза нацыянальнай бяспецы. Бяспека дзяржавы — гэта перш за ўсё людзі, іх культурнае і інтэлектуальнае аблічча. Чалавек, які не чытае мастацкую літаратуру, не здольны на творчасць, на адкрыцці. Гэта антрапалагічная праблема».

За час правядзення канферэнцыі ўжо склаліся свае традыцыі. Запрашаюцца як вядомыя даследчыкі з буйных навуковых цэнтраў, так і маладыя вучоныя. Арганізатары імкнуцца паказаць беларускую культуру, яе духоўнае і матэрыяльнае багацце.

**Марына ЕЛІСТРАТАВА**

Імпрэза

# Дзве грані аднаго брыльянта

**Культура скарачае адлегласці і закрэслівае межы. Дзве мастачкі з розных гарадоў свету сустрэліся на выстаўцы «Sarabande — вечны танец», якая адкрылася 17 верасня ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага. Вольга Дзёмкіна, беларуска, якая жыве і працуе ў Ліёне, і Жаклін Вермер, творца з Парыжа, шчыра падзяліліся таямніцамі сваіх сэрцаў, рассыпаных, нібы брыльянты, на іх карцінах.**



Творы мастачак уражваюць бязмежнасцю. Здаецца, іх уважлівыя позіркі здолелі «сфатаграфаваць» і адлюстраваць на палотнах не толькі ўнутраны свет чалавека, але і касмічныя прасторы сусвету.

Вольга Дзёмкіна, якая ўжо 17 гадоў жыве ў Францыі, даўно не выстаўлялася на радзіме, але ў яе палотнах шмат нацыянальных матываў. Вытанчаная Барбара Радзівіл у залатой сукенцы на фоне беласнежнага палаца альбо незвычайна жывы і блізкі Уладзімір Караткевіч у шэрым паліто, з нязменным нататнікам удумліва пазіраюць з прастораў карцін. Натуральная прыгажосць ідзе поруч з містычнай шматзначнасцю. Вольга Дзёмкіна не абмяжоўвае сваю творчасць. Яна стварае як жывапісныя, так і графічныя палотны, габелены, ілюструе кнігі. Яркасць адценняў, якія плаўна пераплятаюцца, нараджаючы цэльныя сюжэты, надаючы карцінам жыццярадаснасць і дынамізм. Але галоўнае, што вылучае яе работы, — неабыякавасць. У творчасці Вольгі Дзёмкінай адметная роля адводзіцца жанчыне з яе няпростым лёсам.

Жаклін Вермер, якая ўпершыню наведала Беларусь, прызналася: «Я спазнала прыгажосць вашай краіны і ўпэўнена, што гэта натхненне стане глебай для стварэння новых работ». Госця з Парыжа па адукацыі юрыст, працуе адвакатам. Тым не менш мара пісаць карціны, якая нарадзілася яшчэ ў дзяцінстве, зрабіла мадам Вермер вядомай мастачкай.

Больш за тое, сёння яна ўзначальвае акадэмічнае таварыства «Мастацтва — Навука — Літаратура» ў Францыі. Гэтае аб'яднанне займаецца важнай справай — дапамагае юным талентам раскрываць свае здольнасці. Сярод карцін Жаклін Вермер, прадстаўленых на выстаўцы, пераважаюць філасофскія пейзажы, кветкавыя імпрэсіі і партрэты, поўныя шарму і пачуццёвасці.

«Людзі ўзводзяць занадта шмат сцен. У сучасным свеце, у сувязі з нерацыянальнымі эканамічнымі або фінансавымі рашэннямі, часта ўзнікаюць канфлікты. Усё гэта правакуе ўзнікненне турботы і агрэсіі ў грамадстве. Культура ў такія складаныя моманты становіцца выратавальнікам. Менавіта яна наладжвае мост узаемаразумення і павагі паміж народамі, дапамагае змагацца з нецярплівасцю», — лічыць Жаклін Вермер.

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Міністэрства культуры Беларусі, Пасольства Французскай Рэспублікі ў нашай краіне, Пасольства Беларусі ў Францыі, Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама і Музей гісторыі горада Мінска.

Выстаўка «Sarabande — вечны танец» будзе доўжыцца да 5 кастрычніка.

**Марыя ВОЙЦІК**

# З альбома Багушэвіча

Выстаўка фотаздымкаў з сямейнага альбома Францішка Багушэвіча адкрылася ў сталічнай бібліятэцы-філіяле № 14 імя Ф. Багушэвіча.

Адбылася тут і прэзентацыя самога альбома, які быў прадстаўлены Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь, а таксама копіі гэтага фотаальбома, выпушчанай «Цэнтрам фатаграфіі» пад кіраўніцтвам Аляксея Шынкарэнкі.

— Геаграфія здымкаў у альбоме вельмі шырокая: гэта Вільня, Варшава, Масква, Санкт-Пецярбург, Чарнігаў, Кіеў, Дрэздэн, Ашмяны, — распавяла загадчыца аддзела пісьмовых і выяўленчых крыніц гістарычнага музея Надзея Саўчанка. На фотаздымках мы бачым самога Францішка Багушэвіча, яго жонку, дзяцей, сваякоў, сяброў — усіх, з кім ён быў блізкі на працягу свайго жыцця. Знайсці гэтыя здымкі ў свой час нам дапамаглі ўнучка літаратара Станіслава Тамашэўская і доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс.

**Ганна ЗАПЛЕЧНІКАВА**

**Мінскае гарадское аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**28 верасня** — *на літаратурнае свята «Насустрач 70-годдзю Вялікай Перамогі». Мерапрыемства з удзелам групы вядомых пісьменнікаў пройдзе ў мемарыяльнай зале Дома літаратара (вул. Фрунзе, 5). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**30 верасня** — *на літаратурнае свята з удзелам паэта Міхася Пазнякова і групы юных літаратараў — лаўрэатаў універсітэцкага літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп». Імпрэза пройдзе ў Фундаментальнай бібліятэцы Белдзяржуніверсітэта (пр. Незалежнасці, 4, аўд. 229). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**1 кастрычніка** — *на вечар духоўнай паэзіі і музыкі, які адбудзецца ў межах «Дзён праваслаўнай культуры». Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 19 (вул. Казінца, 120). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**2 кастрычніка** — *на юбілейны творчы вечар паэтэсы Тацяны Лейка, які адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

# Ліст у мінулае

Спрабавалі вы калі-небудзь напісаць ліст у мінулае? Дзіцячая бібліятэка № 4 г. Мінска разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі правяла конкурс сярод школьнікаў «Напішы ліст салдату».

Удзел у творчым спаборніцтве бралі больш як 20 хлопчыкаў і дзяўчынак са сталічных навучальных устаноў. Ацэньвалі іх работы старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў і загадчыца бібліятэкі № 4 Людміла Бусел.

Пераможцамі сталі Карына Дзяркач (сярэдняя школа-сад № 468), Дзяніс Бутарын (гімназія № 1 імя Францішка Скарыны) і Анжэла Хусанава (сярэдняя школа № 30). Большасць лістоў былі адрасаваны родным і блізкім. «Бачна, што сучасныя дзеці цікавяцца сваім радаводам, распытваюць бацькоў пра вайну, сваякоў, якія змагаліся з ворагам на франтах і ў партызанах, даведваюцца пра іх мужнасць, — адзначыў Міхась Пазнякоў. — І такім чынам раскрываюць гісторыю краіны праз гісторыю асобнай сям'і». Прынамсі, Карына Дзяркач напісала ліст свайму прадзядулі Аляксандру Буцкевічу, які дайшоў да Берліна, але, на жаль, дамоў не вярнуўся.

**Марына ЕЛІСТРАТАВА**

# На Багач усяго багата

Студэнцкае этнаграфічнае таварыства разам з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы ўжо ў другі раз адзначылі Багач у маляўнічай Вязынцы.

Заканчэнне збору ўраджаю нашыя продкі святкавалі ў дзень восеньскага раўнадзенства. Адмысловы кош з зернем, куды ўстаўлялі васковую свечку, «багач», «багатнік» або «багатца» — галоўны атрыбут свята. Воск для свечкі і зерне збіралі ўсёй вёскай. Потым Багач пад абрадавыя песні і з удзелам усіх вяскоўцаў прanoсілі па акрузе.

Свята мела сакральны сэнс паяднання энергіі дзеля дабрабыту ўсяго роду. Сябра этнаграфічнага студэнцкага таварыства, арганізатар мерапрыемства Дар'я Зуева зазначыла: «Зразумела, мы не можам адрадзіць Багач па ўсіх законах, таму рэканструкцыя свята — умоўная. Але ж мы імкнёмся нагадаць пра традыцыю, якая, на жаль, знікае».

Некалькі соцень чалавек змаглі не толькі пабачыць, як даўней святкавалі Багач, але і далучыцца: высыпаць жменю збожжа ў кош і тым самым забяспечыць сабе дабрабыт у наступным годзе. Пакуль традыцыйныя жніўныя і восеньскія песні спявалі запрошаныя гурты «Паўночная Сухадроўка», «Рутвіца», «Мярэжа», нарэшце выглянула сонейка.

Багатая была і забаўляльная праграма. Пляцоўка для дзяцей, запрошаныя музыкі, вечарына танцавальнага клуба СІТА, майстар-клас па ткацтве і прыгатаванні хатняга сыру. У адукацыйнай частцы праграмы была прапанавана лекцыя пра гісторыі дуды і асаблівасці беларускага дударства ад Яўгена Барышнікава. Цімафей Авілін, навуковы супрацоўнік НАН Беларусі, распавёў пра зорнае неба ва ўяўленнях беларусаў.

**Марына ЕЛІСТРАТАВА**

# Адзіны дом

Падчас другога фестывалю мастацтваў беларусаў свету адбылася літаратурная сустрэча сталічных пісьменнікаў з калегамі з замежжа. Невыпадкова яна прайшла ў Дзяржаўным літаратурным музеі Якуба Коласа.

Госці пазнаёміліся з творчай спадчынай Песняра і атрымалі запрашэнне ад дырэктара музея і вядучай імпрэзы Зінаіды Камароўскай на Каласавіны, а таксама прапанову больш актыўна папулярызаваць творы Якуба Коласа за межамі нашай краіны.

Прадоўжыў сустрэчу паэт з Латвіі Станіслаў Валодзька вершам пра наш адзіны дом — Беларусь. Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў распавёў пра асноўныя напрамкі працы творцаў і заклікаў замежных літаратараў да супрацоўніцтва. Выказалі свае думкі ў вершах паэты Навум Гальпяровіч, Аліна Легастаева, Ганна Чумакова і Іна Фралова.

Шырока была прадстаўлена і польская дэлегацыя: Мірaслава Лукша, Віктар Стахвюк, Ян Сычэўскі. Пётр Капчык з Украіны, дарэчы, не рэдкі госць у газетах «Літаратура і мастацтва», «Культура», часопісе «Вожык», пачаў выступ з верша на ўкраінскай мове. Віталь Бартахоў, прадстаўнік Рэспублікі Крым, прадэкламаваў урывак з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Прадстаўнікі асацыяцыі «Bellarus» Таццяна Пумпулева і Роза Мантана ўразілі прысутных выкананнем песні на італьянскай і беларускай мовах.

«Жывымі» ўспамінамі з жыцця сям'і Якуба Коласа падзяліўся сын Песняра Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Прафесіянал!

Зоя Пятроўна Мельнікава прайшла шлях ад піянерважатай, студэнткі Белдзяржуніверсітэта, аспіранткі пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі да выкладчыка універсітэта, доктара філалагічных навук, прафесара, дэкана філалагічнага факультэта, загадчыка кафедры беларускага літаратуразнаўства, члена савета па абароне дысертацый у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі.

З якой апантанасцю шчыруе Зоя Пятроўна на ніве школьнай адукацыі: чытае лекцыі для настаўнікаў у Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў, рыхтуе падручнікі і вучэбныя дапаможнікі па беларускай літаратуры. Тут няма нічога дзіўнага. На яе жыццёвым шляху сустракаліся сапраўдныя настаўнікі. З цеплынёй успамінае яна першую настаўніцу Ганну Камінскую, Віктара Каваленку, які блаславіў маладую даследчыцу ў навуку, Уладзіміра Калесніка, даследаванні якога далі штуршок да напісання доктарскай дысертацыі.

З годнасцю працягвае Зоя Пятроўна культурныя традыцыі на Берасцейшчыне. Прэзентацыі, сустрэчы з пісьменнікамі на філалагічным факультэце, у бібліятэках, грамадскіх цэнтрах Берасцейшчыны не абыходзяцца без удзелу Зоі Пятроўны. Для яе важна падтрымаць маладыя таленты. Пяру З. Мельнікавай належаць прадмова да анталогіі берасцейскай паэзіі «Дзядзінец», рэцэнзіі на зборнікі пачаткоўцаў і сталых майстроў слова, прадмовы да кніг.

Зоя Пятроўна працуе ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна на кафедры беларускага літаратуразнаўства філалагічнага факультэта. У сваіх даследаваннях яна не толькі заглыбляецца ў гісторыю, але і шукае адказы на маральна-этычныя пытанні.

Віншуем Зою Пятроўну з юбілеем — 60-годдзем з дня нараджэння!

**Ніна БОРСУК,**
**загадчык кафедры беларускай і рускай моў БрДТУ**

## Душка М. ПЕТРАВІЧ



*Народжаны я на адным беразе Дрыны,*
*а жыву на другім.*
*Палова мяне ў Рэспубліцы Сербскай,*
*а палова — у Сербіі;*
*толькі ў вершах сябе з'ядноўваю.*
*Вось такі верш:*

### Мяжа

*Па Дрыне мяжа —*
*нібы пасярод сэрца!*

*— Ці ёсць у каго зброя? —*
*мытнік пытае.*
*Маўчу.*
*Не веру таму, што чую:*
*адзін народ па-рознаму гукае!*

*— Зброя ёсць? — ён паўтарае.*
*Гляджу.*
*Не веру таму, што бачу:*
*адзін народ на двух баках!*

*— Дык маеце зброю?! — зноў пытаецца.*
*— Я маю! — кажу. — Язык у мяне зброя.*
*Толькі ведайце:*
*нават калі яго вырвеце,*
*не зможаце мяне абяззброіць!*

*Па Дрыне мяжа — нібы пасярод сэрца...*
*Пераходжу яе і любоў*
*праношу як кантрабанду —*
*з аднаго боку на другі.*

### ...І пытаюся

*Ці баляць табе раны мае,*
*злачынец?*
*Можаш ты ўзняцца*
*да болю,*
*а ці ўсё яшчэ ў злачынстве,*
*і толькі ў злачынстве,*
*знаходзіш задавальненне?*

*Ахвяры твае*
*даўно над табою,*
*але ты не глядзіш на Неба,*
*а новых ахвяр шукаеш,*
*каб зноў завішчаць*
*здаволена, ловячы*
*ў злачынстве шчасце!*

*Гэтае зло неймавернае,*
*табой авалодаўшы, усё хавае —*
*не ад каго іншага,*
*як ад цябе ж самога;*
*яно баіцца, што перад намі,*
*якія цудам яшчэ ўтрывалі,*
*ты схамянешся,*
*нават нехаця, выпадкова,*
*што сатрэш кроў з вачэй*
*і ўбачыш, які ты ў сапраўднасці:*
*зла начынне ў справах злачынных!*

*Калі б спала заслона крывавая*
*з вачэй тваіх і ты стаў бачыць,*
*то, веру і верыць хачу,*
*што ты б зразумеў,*
*чаму я пытаюся:*
*«Ці баляць табе раны мае?»*

*Мне ўжо не баляць і не будуць!*
*Пакуты за веру і ў веры*
*Госпада нашага Ісуса Хрыста*
*здымаюць боль,*
*і я, такі вось,*
*абгарэлы*
*ў распаленым табой пажары,*
*скрываўлены*
*ў табою ўчыненай бойні,*
*малюся за цябе,*
*за цябе,*
*злачынец гаротны!*

*Малю Бога, каб ты стаў бачыць,*
*каб агледзеўся*
*і самога сябе засароміўся*
*перад Дэчанамі і Архангеламі,*
*перад Зочышчам і Мушуцішчам,*
*перад Пецкай Патрыярхіяй,*
*Саколіцай і Грачаніцай...*
*Перад народам гэтым святым*
*Пратры вочы!*

*І дай Божа*
*Каб больш ніколі ні ад каго*
*не пачуў ты страшнага пытання:*
*«Ці баляць табе раны мае,*
*злачынец?»*

**Пераклад з сербскай**
**Івана ЧАРОТЫ**

## Тамара МАЗУР



### Як хочацца — пра каханне…

*Як хочацца — пра каханне,*
*пра лета каля Каложы!*
*Пра тое, як рана-рана*
*будзе спяваць на Яна*
*у Скідалі карагод.*

*Як хочацца — пра пяшчоту*
*пад ластаўчыным гняздзечкам!*
*На лузе, прыгожа скошаным,*
*пад ніцай вярбой раскошнай,*
*і веліччу аблачын…*

*Што надта ж, як ёсць, падобны*
*на мноства салодкай ваты,*
*шматкамі якой частуецца*
*наіўны дзіцячы свет.*

### Стома

*Бывае такая стома,*
*калі неба здаецца адзінай аддушынай*
*у яміне мітусні і хлусні,*
*што хоча выціснуць*
*з мяне сокі і выплюнуць,*
*як страціўшую слодыч жуйку.*

*І тады я засцілаю жалезны ложак*
*у сваім агародзе каляровай капай,*
*вытканай адной бабуляй з роднай вёскі.*
*Кладуся і ўглядаюся ў гэтую сінечу*
*праз вершаліны яблыневага квету.*

*І пачынаю разумець,*
*што яміны насамрэч няма,*
*што ёсць толькі зямля*
*ў квецені і мая душа,*
*якая прагне ўзаемнай вернасці*
*ад каханага чалавека.*

### Простае і цяжкае

*Прасцей за ўсё*
*абвінаваціць невінаватага,*
*абрабаваць беднага,*
*абылгаць сумленнага,*
*абдурыць разумнага.*

*Цяжэй за ўсё*
*заступіцца за невінаватага,*
*заплаціць беднаму,*
*засцерагчы сумленнага,*
*зразумець разумнага.*

### Не бойцеся

*Не бойцеся, калі бура*
*зломіць вершаліну вашай яблыні.*
*Бойцеся, калі пасля яе*
*не застанецца ні адной галіны.*
*Бо нават яна адна*
*здольная разбудзіць сокі*
*ва ўцалелым ствале.*
*І глядзіш: прарастаюць*
*маленькія парасткі*
*праз, здаецца, памерлую кару.*
*І ўсё таму, што ўцалела адна галіна.*

## Даната ВАРАБЕЙ



***

*Прыгожай летняю парой*
*Нявестай белай*
*Цвіце у садзе за акном*
*Мая ісмена.*

*Чаруе, вабіць да сябе,*
*Нібы агеньчык, —*
*І захапленне, і любоў,*
*Душы праменьчык.*

***

*Кім, скажы, для цябе мне быць:*
*Ці вясёлкай, ці снегам белым?*
*Можа, хмаркай па небе плыць?*
*Можа, ўпасці яблыкам спелым?*
*Буду зоркай табе ўначы,*
*Буду сонейкам найвысокім.*
*Буду рэчкай ціхутка цячы,*
*Летнім днём ратаваць ад спёкі.*
*Буду кропляй жывой вады,*
*Каб ты, стомлены, змог напіцца.*
*Буду хлебам-соллю, каб ты*
*Мог заўсёды ўдосталь жывіцца.*
*Буду мёдам на вуснах тваіх,*
*Буду хмелем ці ружай калючай.*
*А каб раны твае зажывіць,*
*Разліюся крыніцай гаючай.*
*Матыльком на тваім плячы*
*Ў белым вальсе з табой закружуся.*
*Кім яшчэ можна быць, скажы?*
*А не быць — вось чаго баюся.*

***

*На сэрцы сумна ў тыя дні,*
*Калі дажджы ліюць навокал*
*І зоркі — вечнасці агні —*
*Ужо маё не цешаць вока.*
*Не хочацца нікуды йсці:*
*Туман захутаў ноч увішна,*
*І дрэмле ў ціхім забыцці*
*Табой пасаджаная вішня.*
*На дол лісты злятаюць з дрэў,*
*Іх вецер выстылы ганяе.*
*А клён ля хаты пастарэў*
*І дні былыя ўспамінае…*
*На сэрцы сумна без пары,*
*Калі дажджам няма спакою,*
*Калі на поўдзень жураўы*
*Ляцяць над ціхаю ракою.*

## Міхась КУЛЕШ



***

*Я з'явіўся на гэты*
*загадкавы свет*
*На дзясятку другім*
*пасля страшнай вайны,*
*А яна тут пакінула*
*глумны свой след —*
*Толькі боль,*
*Толькі сум,*
*Толькі раны адны.*

*І, малому, чамусьці*
*здавалася мне,*
*Што было ўсё не ўчора,*
*а гэтак даўно,*
*І мінулася ўсё, нібы*
*ў леташнім сне,*
*Як па клубнай сцяне*
*прабягае кіно.*

*Час — самы строгі суддзя —*
*хутка крэсліць гады.*
*Што мінула, таго ўжо*
*назад не вярнуць.*
*Дабаўляюць гады*
*сівізны і жуды*
*І вяртаюць*
*чамусьці туды,*
*у вайну.*

*Зноўку множацца хвілі*
*на страты і жах,*
*Дзе пякельна дымяцца*
*і ночы, і дні.*
*У вачах паўстаюць*
*то Хатынь,*
*то Рэйхстаг.*
*Чую залпы «Кацюш»*
*у нямой цішыні.*

*Не баюся гадоў*
*і самоты самой,*
*А трывогаў цяжар*
*нарастае штогод.*
*Белы бусел хай кружыць*
*над хатай маёй,*
*А не чорны*
*чужы самалёт!..*

***

*Святлане Сысоевай*

*Не тое каб дзеля пацехі,*
*А толькі б не горш ад другіх,*
*Я ў Турцыю летам паехаў,*
*Да мора, да зваб дарагіх.*

*Джакузі, дыван мадэрновы,*
*На мора выходзіць акно,*
*Гатэль пяцізоркавы новы...*
*Я марыў пра гэта даўно.*

*Там сэрвіс шыкоўны усё-ткі,*
*Ёсць воку паўсюль там зачэп.*
*Купіў я там нейкую шмотку,*
*Набыў і пярсцёнак яшчэ.*

*Усё там з нечаканак,*
*Здаецца, я ўсё пагляздзеў,*
*І замак той іх Баваўняны,*
*І храм Апалона ў Сідзе.*

*Займальна было ўсё, па-людску,*
*І кругам ішла галава...*
*Але каб не Танька з Іркуцка, —*
*Дарэмна б я час змарнаваў.*

***

*На тое і парылка —*
*тут прапарка,*
*Спрачаецца прылазнік,*
*як заўжды:*
*Гарэлка дарагая і салярка,*
*Сваё бяруць і гандаль,*
*і гады.*

*Хто піва п'е, а хто глытае сліну,*
*Тут нават самы ціхі — гаваркі.*
*Зайшоў мужчына і з парога кінуў:*
*— Здарова-а,*
*моцнай пары,*
*мужыкі!..*

*«Разумнік, — мне сказаць*
*яму карцела, —*
*Не мог нічога выдумаць мудрэй...»*
*Але, глядзі, у лазні*
*пасвятлела,*
*І сам народ адразу падабрэў.*

*Кранулі словы кожнага,*
*здаецца,*
*І бачу: задаволеныя ўсе.*
*І мой сусед нахмураны смяецца*
*І куфель госцю*
*поўненькі нясе.*

*І ён ужо між нас*
*як ганаровы,*
*Усіх знянацку так расварушыў.*
*Як добра, калі тое*
*знойдзеш слова,*
*Хоць простае,*
*а мілае душы!..*

**Пераклад з рускай**
**Казіміра КАМЕЙШЫ**

# Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# Падзяка ваяводы

## *Гістарычнае апавяданне*



1

Магілёўскі бурмістр Язэп Леановіч стаяў ля каміна і, раз за разам зябка паводзячы плячыма, то адным, то другім бокам паварочваў да ласкавага полымя свае пакрэплыя далоні. Шчаслівая і безабаронная, бы ў малога дзіцяці, усмешка расцягвала яго тонкія вусны. Вочы былі прыжмураны, і па ўсім абліччы немаладога ўжо мужчыны было бачна: чалавек прамерз да самых касцей і зараз адаграецца, атрымліваючы ад гэтага сапраўдную асалоду.

Ён толькі што вярнуўся ад стралецкага ваяводы Сямёна Савіча Гарчакова, дзе, як звычайна, збіраўся цярпліва выслухаць скаргі пыхлівага маскавіта на негасціннасць і нядзячнасць магіляўчан. Аднак на гэты раз ваявода лютаваў па іншай прычыне: раніцай, яшчэ ў прыцемках, стралец з сотні Сёмкі Чэкіна на беразе Дняпра выпадкова натыкнуўся на вешальніка. І не дзіва, калі б павешаным аказаўся жыд ці ліцвін! Але ж не. На ніжнім, самым тоўстым суку старога клёна, бы вялікая галавешка, боўтаўся ўніз галавой поп Георгій. «Гэтага папа сюды, лічы, сам цар-бацюшка прыслаў, каб ён вам мазгі прачысціў ад вашай ерасі! — яшчэ не супакоіліся ў галаве Язэпа крыўдныя словы ваяводы. — А вы забілі яго! Гады! Сволачы! Нехрысці! Каб сягоння ж забойца быў знойдзены і дастаўлены да мяне, і судзіць яго буду я сам. Не ты са сваімі лаўнікамі, а я! Зразумеў, бурмістр?» Што мог адказаць пан Леановіч стралецкаму ваяводзе, за плячыма якога стаяла сямітысячнае войска? Нічога. Таму ён у знак згоды толькі кіўнуў: «Знойдзем душагуба, твая міласць».

Абяцанне сарвалася з вуснаў лёгка, неабдумана — абы хутчэй пазбавіцца непрыемнай кампаніі, аднак зараз, у цішы цёплага пакоя ля каміна, яно падалося бурмістру заўчаснай пахвальбою. «Няйначай чорт за язык мяне пацягнуў, — лаяў ён сваю мяккацеласць. — Ці ж магчыма за палову дня знайсці забойцу папа?»

І ўсё ж пан Язэп лічыў сябе гаспадаром свайго слова, таму, не марудзячы, паклікаў пісара і, калі той паказаўся ў пакоі, пацікавіўся:

— Хто з лаўнікаў ёсць у ратушы?

— Бачыў Міколу Цямчыка.

— Кліч яго сюды.

Мікола Цямчык з'явіўся ў пакоі бурмістра хутка. Гэта быў малады, гадоў дваццаці пяці, мужчына. Аздобленая футрам ваўка шуба падавалася яму цеснаватай і таму была расшпіленай на грудзях. Чорная, акаймляла падстрыжаная бародка акаймляла шырокі твар, на якім вясёлым задорам з-пад гэткіх жа чорных броваў на бурмістра зыркалі чорныя вочы. Высокі, шырокі ў плячах, з пастаяннай усмешкай на вуснах, ён многім нагадваў магутнага, але прастадушнага чалавека. Аднак пан Леановіч ведаў, што пастаянныя весялосць і прастадушнасць — гэта маска, якой умела карыстаецца Мікола, што на самай справе ён жорсткі, хітры і вельмі асцярожны і разам з тым разумны і кемлівы. Недарэмна на грудзях побач з нацельным крыжыкам ён насіць абярэг з воўчых іклаў.

— Што здарылася, пан Язэп? — замест прывітання запытаўся Мікола. У яго голасе разам з цікаўнасцю гучала непадробная трывога.

— Святара маскоўскага знайшлі павешаным, і ваявода Гарчакоў патрабуе, каб мы неадкладна, да вечара, даставілі яму забойцу.

— Дык у чым праблема? — бляск у вачах асілка патух, і грэблівая ўсмешка перакасіла яго вусны. — Я табе хоць зараз магу прадставіць з дзясятак бандытаў, кожны з якіх на крыжы паклянецца, што гэта ён накінуў удаўку на шыю маскавіта.

— Пытаць забойцу хоча сам Сёмка. Таму ты, Мікола, пастарайся.

Цямчык шумна ўздыхнуў і, цяжка ступаючы, выйшаў з пакоя бурмістра.

2

Зімовы дзень 15 студзеня 1655 года быў у самым разгары. Сонечны, марозны, ён аднačасна і весяліў, і ахалоджваў жывыя душы. З далёкага блакіту на змярцвелую зямлю сыпаў дробненькі, бы шкляны пыл, сняжок. Ён зіхацеў самацветным каменнем, пераліваўся ўсімі колерамі вясёлкі ў крохкім паветры і, урэшце змучаны такімі танцамі, лёгкім пухам асядаў на галіны дрэў, на стрэхі пабудоў, на парканы, на дарогу.

Ужо апоўдні Мікола выйшаў за вароты Куцеінскага манастыра, у адной з келій якога жыў маскоўскі поп Георгій, і ў суправаджэнні самога ігумена Труцэвіча накіраваўся да берага Дняпра. Пара клубамі вырывалася з яго рота, пакрывала белым панцырам каўнер шубы, шапку, аднак ён не звяртаў на гэта аніякай увагі. Ён слухаў Труцэвіча.

— Для беднага чалавека, пан Цямчык, вера — гэта адзінае, што ў яго не могуць адабраць гвалтам, — ціхім голасам апавядаў ігумен. — Таму, калі нашы ўлады пачалі прыцясняць праваслаўе, простыя людзі звярнулі свае позіркі на Маскову, цар якой не толькі лічыць сябе праваслаўным, але і ўсімі сродкамі бароніць гэтую сваю веру. Магілёўцы яму паверылі, з хлебам-соллю сустрэлі яго войска, але ўжо праз месяц расчараваліся ў маскоўскім праваслаўі, убачылі, што яно яшчэ горшае за ўніяцтва. Бо не зважаюць маскавіты ні на абрады нашы, ні на традыцыі, ні на законы. І святы, і пасты ў іх нейкія незразумелыя, і адзенне ў іх мусульманскае, і на вернікаў нашых яны глядзяць з пагардай, а таму ўсё часцей у цэрквах, дзе служаць святары з Масковіі, успыхваюць сваркі і нават бойкі… Жыў у нашым манастыры айцец Сергій — чалавек, у адрозненне ад свайго брата Кузьмы, набожны, добры, крыху сарамлівы. Дык вось Сергій часта спрачаўся з маскоўскім папом па-сапраўднаму, не раз прыходзілася іх разнімаць, каб яны не перагрызлі адзін аднаму горла.

— Трэба мне пагутарыць з гэтым сарамлівым Сергіем.

— Не атрымаецца, бо выцягнулі яго заўчора з палонкі на Дняпры. Кузьма плакаў, а поп Георгій смяяўся: «Ад грахоў сваіх і ад сораму наклаў на сябе рукі твой брат!» — Труцэвіч замоўк, выцер рукавом вочы, спыніўся. — А вось і клён, з якога сягоння знялі Георгія, а там, — ігумен паказаў рукой на рэчку, ля берага якой цёмнай плямай выдзялялася палонка, — быццам бы ўтапіўся наш брат Сергій.

— Цікава! — Мікола наблізіўся да старога дрэва, агледзеў кавалак абрэзанай вяроўкі, што застаўся на суку, штурхнуў нагой драбіны, якія ляжалі на снезе: — Навошта яны тут?

— Пэўна, нябожчыка здымалі.

— Вяроўка перарэзана, — лаўнік зноў штурхнуў драбіны нагой, потым нахіліўся і падняў са снегу нейкі невялічкі прадмет. — Цікава!

— Я табе, пан, больш не патрэбны?

— Дзякую за дапамогу, святы айцец, — Мікола ўжо спускаўся па вузкай сцяжынцы да палонкі. — Але адкажы мне яшчэ на адно пытанне: «Учора вечарам у Георгія быў пухір пад правым вокам?»

— Днём не было, а вечарам я яго не бачыў.

Цямчык удзячна махнуў святару на развітанне рукой і, адразу ж забыўшыся пра яго, спыніўся ля палонкі. Ён уважліва, чэпкім позіркам агледзеў рачны лёд, зазірнуў у ваду і толькі потым схіліўся над каменем, які быў абвязаны вяроўкай і які, пэўна, знялі з шыі тапельца Сергія. «Цікава!» — прагаварыў ён у бараду, дастаў з-за халявы бота нож, адрэзаў кавалак вяроўкі і паклаў яго ў кішэнь.

Падняўшыся да клёна, лаўнік нажом абрэзаў астатак вяроўкі з сука і таксама апусціў яго ў сваю кішэнь. Потым падхапіў са снегу драбіны, лёгка ўскінуў іх на плячо і накіраваўся да бліжэйшай жылой пабудовы.

Не паспеў Мікола зайсці на панадворак карчмы, як з-пад паветкі да яго падскочыў невысокі, каржакаваты, з ног да галавы зацярушаны саломай, мужычок.

— Вось хто ўкраў мае драбіны! — ён схапіў лаўніка за рукаў шубы. — Навошта яны табе спатрэбіліся?

Ад карчмара непрыемна смярдзела конскім потам, быдлячым гноем, і па ўсім было бачна, што ён не рады прыходу незнаёмца.

— Навошта табе спатрэбілісямае драбіны? — ужо без ранейшага імпэту паўтарыў ён, не адпускаючы, аднак, рукава лаўніка.

Мікола трасянуў рукой, ад чаго карчмар ледзь не паваліўся на снег, спакойна зняў з пляча драбіны, кінуў іх пад загарадзь.

— Не краў я ў цябе нічога ды і цябе самога ўпершыню бачу. А драбіны твае стаялі ля дрэва, вось я і прынёс іх сюды, каб не скралі часам ліхія людзі.

— Ля якога дрэва?

Аднак лаўнік не адказаў. Схіліўшы галаву, ён ужо адчыніў дзверы карчмы і пераступаў нізкі парог.

У карчме было душна і цёмна. Пах пракіслай капусты моцна казытаў ноздры, ад падпаленай цыбулі і чаду перахоплівала дыханне. Адзіная сальная свечка, што сіратліва стаяла пасярод стала, пырскалася ва ўсе бакі тлушчам і кідала няроўныя цені на чорныя сцены будыніны.

Мікола некалькі імгненняў пастаяў ля парога, чакаючы, пакуль вочы прызвычаяцца да паўзмроку, потым адшукаў позіркам абраз, зняў шапку і перажагнаўся. Яшчэ ён убачыў, што ўздоўж сцен памяшкання стаялі два доўгія сталы і за адным з іх, у самым глухім і цёмным месцы, сядзеў адзінокі чалавек. Да яго лаўнік і накіраваўся.

Незнаёмец быў п'яны. Ён сядзеў за сталом, абхапіўшы кудлатую галаву рукамі, і тупа глядзеў у пусты кубак.

— Кузьма? — запытаўся ў незнаёмца лаўнік.

— Ну, — абыякава адказаў той, але галавы не падняў. — Што табе трэба?

— Хачу аддаць табе твой аплік, — Мікола выцягнуў з кішэні невялічкі прадмет, знойдзены ім ля клёна, і паклаў побач з кубкам Кузьмы.

Той левай рукой падхапіў засцежку, паднёс яе бліжэй да вачэй.

— Так, гэта мой аплік, — у голасе Кузьмы адчуліся жывыя ноткі. Ён падняў галаву і зірнуў на лаўніка: — Ты дзе яго знайшоў?

— Ля клёна.

— А я толькі нядаўна заўважыў яго прапажу.

Кузьма адразу зразумеў, што незнаёмец усё ведае, а таму і не адпіраўся, не юліў, не імкнуўся расчуліць яго словамі, каб неяк апраўдаць сваё зладзейства. Невідушчымі вачыма ён нейкі час глядзеў у прастору пакоя, потым падняўся з лавы, узяў з паліцы гліняны кубак, напоўніў яго брагай.

— Піць будзеш? — ён ужо змірыўся са сваім лёсам і поўнасцю скарыўся яго цячэнню.

Мікола сеў на лаву насупраць Кузьмы, узяў кубак і, не спяшаючыся, асушыў яго. Потым зноў запытаўся:

— Скажы мне, Кузьма, навошта ты ўкраў у карчмара драбіны? Да сука ж можна лёгка дацягнуцца і без іх!

— А я ў яго ўкраў не толькі драбіны, але і вяроўку.

— Ну а драбіны навошта?

— Без іх ты б не зайшоў сюды.

3

Адвячоркам Мікола Цямчык разам з бурмістрам сядзелі ля каміна, пілі венгерскае віно і размаўлялі. За акном лютаваў мароз, з трэскам ірваў на дрэвах кару, калючым інеем шкробся па аконнай слюдзе, паказваў людзям, хто сапраўдны гаспадар у горадзе. Аднак ніхто не звяртаў на яго ўвагі і ад людской абыякавасці мароз шалеў яшчэ больш.

— Як табе ўдалося так хутка знайсці забойцу? — узрушаны пан Леановіч раз за разам падліваў віно ў шкляны бакал свайго суразмоўцы. — Ты абараніў не толькі гонар нашага магістрата, але і выратаваў і маю ўласную годнасць.

— Знайсці яго было нескладана, — Мікола с задавальненнем укінуў у рот салодкую крымскую ягаду, запіў яе церпкім віном, — бо адказы амаль на ўсе пытанні мне даў ігумен Труцэвіч.

— Раскажы.

— Ён мне паведаміў, што поп Георгій люта ненавідзеў айца Сергія, што яны часта сварыліся і нават біліся на кулаках. Яшчэ я даведаўся, што Георгій амаль кожны вечар бавіў час у карчме Ванькі Казекі…

— Я чуў таксама, што маскавіт быў заўзятым жлуктай і бабнікам.

— Дык вось, поп завінаваціў карчмару вялікую суму грошай, а аддаваць яе не збіраўся…

— І скваліны Казека, каб пазбегнуць разарэння, пазбавіў маскавіта жыцця! — бурмістр задаволена пацёр рукі. — І сапраўды, як усё проста! Але ж навошта ён драбіны пакінуў пад клёнам? І чаму на сваёй вяроўцы павесіў папа? Чаму адразу не знішчыў доказы свайго злачынства? — пан Язэп хітра ўсміхнуўся і з падазрэннем паглядзеў на Міколу.

— Таму што дурань! — вочы лаўніка напоўніліся халоднай весялосцю. — Я адразу заўважыў, што вяроўкі ён пляце адмысловыя, з чорным уплятненнем… Сквапнасць і дурнота яго пагубілі.

— Ну дай бог, каб Сёмка Гарчакоў паверыў табе, а не Казеку. Дай-та бог! — пан Леановіч перажагнаўся на абразы.

— Калі Ванька раскажа ваяводзе праўду пра п'яныя оргіі папа і пра гвалтоўную смерць айца Сергія, — а на дыбе ён усё раскажа, — то Гарчакоў зразумее, хто для яго тут галоўны вораг і, зразумеўшы відавочнае, яшчэ шчыра падзякуе табе… за маўчанне.

4

Наступным ранкам да магілёўскага бурмістра завітаў нечаканы госць: сам стралецкі галава Сямён Іванавіч Чэкін у суправаджэнні двух стральцоў з шумам уваліўся ў пакой пана Язэпа.

— Ну, бурмістр, дагадзіў ты нашаму ваяводзе! — адразу, прама ад парога, забасіў стралец. — Сямён Савіч прасіў мяне перадаць табе падзяку, а да падзякі — вось гэтую карчагу мёду, — паказаў ён на вялікую пасудзіну, якую стральцы асцярожна ўстанаўлівалі на стол. — Яшчэ ён прасіў, каб ты выкінуў з галавы, забыўся пра смерць папа і… Сямён Савіч спадзяецца, што ты застанешся яго сябрам.

# Карыснае + прыемнае

Пісаць агляды можна па розных схемах: агледзець тэмы і праблемы, прааналізаваць асобна паэзію, прозу ці публіцыстыку, супаставіць творы сталых і маладых альбо вядомых і невядомых аўтараў. Можна дадаць і шмат чаго іншага — але самым удзячным варыянтам часта з'яўляецца просты падзел публікацый на карысныя, прыемныя і добрыя. У новым нумары «Полымя» ёсць што вылучыць у кожнай катэгорыі!

Да карыснага трэба ў першую чаргу аднесці ўспаміны Язэпа Драздовіча «На пазахатнім свеце», напісаныя мастаком у 1938 годзе і прысвечаныя 1914 — 1918 гг. Фельчарская служба, нямецкія салдаты, размовы пра анархістаў і беларускіх пісьменнікаў, сустрэчы з Б. Эпіхам-Шыпілам, які ў рэвалюцыйным Пецярбургу вывучае эстонскую («чухонскую») мову… Ва ўспамінах шмат дыялогаў, жыццёвых эпізодаў і трапных назіранняў («Не раззыбвай дрыгвы пад нагамі, бо на дрыгве стаіш»). Тэкст быў адшуканы А. Лісам, знаходзіцца ў яго архіве і друкуецца ўпершыню.

Варта адзначыць і падборку з эпісталярнай спадчыны І. Шамякіна — лісты, напісаныя пісьменнікам альбо адрасаваныя яму. Два лісты былі дасланыя І. Шамякіну ад М. Стральцова — яны датуюцца 1982 годам і «адлюстроўваюць не вельмі прыемны і складаны этап у жыцці таленавітага творцы». Наталля Пахомчык у навуковай публікацыі, прысвечанай беларускай вясковай прозе 1920 — 1930-х гг., з выкарыстаннем наратыўных катэгорый выяўляе камуфляжныя стратэгіі ў раманах «Мядзведзічы» К. Крапівы і «Лявон Бушмар» К. Чорнага.

Прыемныя старонкі «Полымя» — рубрыка «Галасы свету», якая пачынаецца выдатнай прадмовай новай супрацоўніцы часопіса Юліі Алейчанка і прапануе творы сучасных украінскіх пісьменнікаў (А. Дзімараў, Г. Тарасюк, В. Парцяк, У. Даніленка, М. Слабашпіцкі). Апавяданні напісаны паводле галоўных літаратурных правіл: экспазіцыя, завязка, кульмінацыя… Плюс неспадзеўкі для чытача і крыху міфалагічна-фантастычнага. Стасункі між чалавекам і прыродай, тыпы асоб сучаснай Украіны, звычайныя і незвычайныя падзеі, якія могуць здарыцца на вёсцы альбо ў мястэчку, «падобным да забытага ўладай і Богам герыятрычнага пансіянату» — здаецца, аўтары не звяртаюцца да звышнатуральнага, але пішуць упэўнена і цікава, напэўна, таму, што прэтэндуюць на ўвагу чытача. Альбо ўвага чытача спрыяе таму, каб аўтары пісалі ўпэўнена і цікава? Наўрад ці магчыма вызначыць, што тут першасна, але адно без другога дакладна немагчыма.

Не менш прыемнае чытанне — аповесць Уладзіміра Сцяпана «Настаўнік», прысвечаная мастаку Сяргею Каткову, які кіраваў знакамітай студыяй выяўленчага мастацтва ў мінскім Палацы піянераў. Аповесць складаецца з невялікіх фрагментаў (ад трох сказаў да паўстаронкі) — успаміны, пытанні, супастаўленні, роздумы. Памяць выдатнай асобы можна ўшанаваць не толькі артыкулам з пералікам галоўных падзей жыццёвага і творчага шляху (якія У. Сцяпан, натуральна, не піша), але і больш вартым чынам. Чалавек адметны не наяўнасцю адукацыі ці наборам дзяржаўных узнагарод, а характарам, схільнасцямі, светапоглядам — і важна, каб менавіта пра гэта было каму прыгадаць і распавесці. Аповесць не толькі знаёміць з асобай, але і ўдакладняе эпоху: былі і ў сямідзясятыя гады людзі, якія асуджалі савецкую ўладу за глупства і малявалі разам з дзецьмі Сафійскі сабор над Дзвіной. Вучняў С. Каткова не трэба далёка шукаць: студыю мастака наведвала Ірына Лобан, дачка пісьменніка Міколы Лобана. Яго ўспаміны «Паэма майго маленства» вартыя асобнай размовы ў «ЛіМе»…

Аматараў літаратуры таксама прывабяць вершы Анатоля Зэкава і Сяргея Панізніка — а далей у часопісе застаецца яшчэ шмат добрага: аповесць Юліі Зарэцкай «Двое з дваццаці двух» (пра дзень сустрэчы выпускнікоў і розны лёс былых аднакласнікаў), агляд жнівеньскіх нумароў «Полымя» ад 1923 па 1965, падрыхтаваны Алесем Маліноўскім, ды іншае.




**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Mystification

Жнівеньскі «Нёман» прапануе чытачу займальную містыфікацыю.

У празаічнай частцы часопіса з апавяданнем «Дзівацтвы кахання» выступіла Ніколь Валье, якую даверлівы і неспрактыкаваны чытач можа прыняць за французскую аўтарку. Зрэшты, нават калі і так, нашага гіпатэтычнага чытача вінаваціць наўрад ці можна: першую частку апавядання спадарыня Ніколь трымаецца даволі прафесійна. Яна ўдала пераймае стылістыку сучаснай французскай жаночай прозы, з якой мы мелі магчымасць пазнаёміцца на старонках таго ж «Нёмана»: складаныя, максімальна запоўненыя сэнсам і дзеяй сказы, так што ствараецца ўражанне своеасаблівай «цягучкі», дастаткова салодкай, каб яе можна было ўжываць без асаблівых пакут; засяроджанне ўвагі на дробязях, прычым успрымаюцца яны праз свядомасць жанчыны — галоўнай гераіні; вялікая канцэнтрацыя пачуццяў: на кожную, незалежна ад яе аб'ектыўнай значнасці, з'яву гераіня адгукаецца фантанам эмоцый. Вытрымаць такі стыль даволі складана, бо ёсць вялікая рызыка не адчуць баланс паміж добрым густам і пародыяй на плынь свядомасці, і ў выніку замест мастацкага твора пра жанчыну напісаць жаночы раман. Трэба мець бездакорнае адчуванне слова і пэўны досвед, каб адрозніць, якая дэталь сапраўды мае мастацкую вартасць, а якая не выкліча ў чытача нічога, апроч прыкрасці.

Ніколь Валье, як ужо адзначалася, збольшага трымаецца стылю, хоць некаторых агрэхаў ёй пазбегнуць не ўдаецца. Напрыклад, у шэраг арыгінальных заўваг, назіранняў укліньваецца выраз «жаночае шчасце», які вокамгненна надае папяровым развагам лёгкае вульгарнае адценне. І справа не ў самім выразе, не ў тым нават, што гэта штамп, а ў кантэксце: калі мэтанакіравана ствараецца карцінка а-ля France, хоць бы падзеі і адбываліся ў беларускай прасторы, словы з нашай рэчаіснасці будуць кантраставаць з гэтай самай карцінкай, псаваць яе.




Ёсць яшчэ адно адрозненне ад сапраўднай французскай жаночай прозы, і заўважыць яго цяжэй. Калі ў творы Ніколь Валье гутарка ідзе пра тое самае «жаночае шчасце» і нічога больш, то ў тэкстах, стылістыку якіх аўтарка пераймае, размова больш сур'ёзная. Напрыклад, у апавяданні апісваецца купля кашміравага швэдара, але насамрэч узнімаецца праблема спажывецтва, якую так яскрава раскрыў яшчэ адзін француз — Фрэдэрык Бегбедэр.

А яшчэ ёсць пытанне да часопіса: навошта прапаноўваць чытачу містыфікацыю і адразу ж яе раскрываць, падаючы ў канцы сапраўднае прозвішча і біяграфію аўтаркі?..

Аляксандр Мізгайла апісвае цяжкія настаўніцкія будні ў нізцы апавяданняў пад агульнай назвай «Школа». Пры тым што аповеды чытаюцца з цікавасцю (а гэта ці не самае галоўнае сёння, калі часу на маленькія радасці жыцця ў людзей надзвычай мала), аўтару відавочна не хапае жорсткай рэдактарскай рукі. Хоць у тэксце і няма слоў «не для друку», ёсць лексіка, якая і ў размоўным стылі не вітаецца, што ўжо казаць пра мастацкі. І ў выніку атрымліваецца дзіўная сумесь яскравага гумару і пошласці, нешта сярэдняе паміж навеламі О. Генры і мемуарамі крымінальнага аўтарытэта.

Таксама ў раздзеле «Проза» змешчаны апавяданні Уладзіміра Кукуня — фантастычныя і песімістычныя; а таксама працяг рамана «Не загіне са мной» Алега Ждана.

Асаблівай увагі заслугоўвае ў жнівеньскім нумары раздзел «Сусветная літаратура ў «Нёмане», дзе чытачоў знаёмяць з новаіндыйскай літаратурай. У кастрычніку 2013 года ў часопісе друкаваўся аповед С. Р. Харната «Бязмоўныя сябры», які ў Індыі выклікаў шырокі рэзананс. Цяпер жа часопіс прапануе пераклады аповедаў Картэра Сінгх Дугала «Скон месяцовай ночы», Муншы Прамчанда «Пяць Багоў», Саіда Аюба «Джын» і «Халва на Шабарат», Вімаля Чандра Пандэя «Сцэна», а таксама паэзію Аніты Капур. Калі адкінуць знешнюю экзотыку, вы ўбачыце, як шмат агульнага ў звычайнага беларуса і звычайнага індыйца.

Што да паэтычнай часткі «Нёмана», тут можна прачытаць пераклады вершаў Алега Салтука, а таксама творы Святланы Яўсеевай, Вольгі Ерышавай і Іны Спасібінай.

**Наста ГРЫШЧУК**

# ...з народных нетраў




«Знаёмства на старонках часопіса «Маладосць» з паэтамі розных краін, розных моў — вяртанне да добрай традыцыі эксперыментаў, пошукаў перакладчыкаў сусветнай паэзіі на беларускую мову».

Так адкрываецца жнівеньскі нумар «Маладосці». Сапраўды, галоўная яго адметнасць — падборка вершаў, якая, з аднаго боку, мусіла пазнаёміць чытача з замежнымі аўтарамі, а з другога — стаць своеасаблівай данінай Дню пісьменства.

Чынгіз Аліаглу, які прадстаўляе Азербайджан, у сваіх вершах дзеліцца назіраннямі, робіць абагульненні і высновы пра жыццё ў цэлым.

Міні-паэма Эдварда Мілітаняна (Арменія) «Кшыштаф Пендэрэцкі» прысвечана не толькі той, «што распраўляе нашую сырую гліну, — музыцы чароўнага дажджу», не толькі мастацтву, што робіць чалавека чалавекам. Ёсць тут і немінучыя развагі пра радзіму і землякоў, лёс народа, пра чалавечую прыроду, які не выжыць без любові, і ўсё — з дамешкам самаіроніі і вялікай сімпатыі. Біяграфія кампазітара змешваецца з хрысціянскай гісторыяй, такім чынам старажытным вобразам надаецца новае гучанне, а паэме — асаблівая глыбіня. Дарэчы, у тэксце адчувальны і ўплыў перакладчыка — Віктара Лупасіна.

Слабадан Вуканавіч (Чарнагорыя) прадстаўляе «новы літаратурны напрамак» (прынамсі, падаецца ён як новы): спалучэнне верша, музыкі і карціны — так званы паэмувіз. Аднак нават калі не выконваць усіх умоў, то бок, не глядзець перад ці падчас прачытання на пазначаную карціну і не чытаць тэкст пад абраную аўтарам музыку, паэзія Слабадана Вуканавіча ніколькі не губляе і цудоўна ўспрымаецца без эксперыментальных па.

З рубаямі на старонках «Маладосці» выступае Аляксей Гаджыеў (Дагестан). Ёмістыя чатырохрадкоўі, прысвечаныя збольшага каханню (ці некаханню), пераклаў Рагнед Малахоўскі.

Рэнат Харыс з Татарстана «выгульвае Слова, стоячы ў цэнтры сусвету», а Любоў Шашкова (Казахстан) любоўна апісвае родныя пейзажы.

Паэзія Лулы Куні з Чачні прыкметна выбіваецца з інтэрнацыянальнай падборкі: тут мала замілавання і яшчэ менш радасці, між радкоў — кроў, свіст куль і вятроў. Гэты настрой, быць можа, крыху менш змрочны, падхоплівае Нэвена Вітошавіч-Чэкліч (Сербія), якая піша пра сербскіх выгнаннікаў, народжаных, «каб пакінуць / у квецені сады / і зарунелыя палі…». Зрэшты, ці толькі пра сербаў гэтыя радкі?..

Але завяршаецца інтэрнацыянальна-паэтычны «блок», нягледзячы на мінорны спад, светлай нотай, прысвечанай Беларусі.

Звыклая ж «Маладосць», як і заўжды, складаецца з паэтычнай і празаічнай частак, літаратурных дэбютаў і публіцыстыкі, а таксама з цікавай рубрыкі «Кухня Машы Дуброўскай», на якую гэтым разам завітала Людміла Рублеўская. Пісьменніца распавяла пра сваё архітэктурнае мінулае, пра тое, адкуль і як бяруцца прататыпы герояў яе твораў, пра збіранне камянёў (у літаральным сэнсе).

Што да дэбютаў, з імі ў нумары выступілі Дар'я Марозава, Цімур Буйко і Мікіта Волкаў. Спадарыня Дар'я, студэнтка філфака, пад уражаннем ад чытання Гамера (рэдкі студэнт пазбягае гэтай долі) напісала апавяданне «Пантэон», героямі якога сталіся вецер і «тры паўпразрыстыя кабеты», што вырашаюць лёсы людзей. Аўтарка здольная адчуваць тое ж, што і яе героі, аднак ёй не заўсёды ўдаецца пазбегнуць шматслоўя, як і падабраць адзіна патрэбнае слова (што ўзаемазвязана). Вершы спадара Цімура прысвечаны каханню і, як ні дзіўна, таксама адгукаюцца лёгкім старажытнагрэчаскім рэхам.

Апавяданне Мікіты Волкава «Дарога дамоў» можна назваць удалым нават з-за адной толькі фразы: «Надзея так апантана любіла Беларусь і ўсё, што з ёй звязана, што марыла закахацца ў хлопца з народных нетраў».

Паэтычную частку «Маладосці» гэтым разам склалі творы Алісы Мінінай, Ірыны Чарняўскай, айца Яўстафія (Халіманкова), Віктара Шніпа, празаічную — апавяданні Алены Беланожка («Кава з цукрам», «Намалюю табе горы» і «Калі распластаўся бурштын») і Уладзіміра Мажылоўскага («Апошні дзень восені»).

Аматарам гісторыі і гісторыі беларускай літаратуры ў прыватнасці раім звярнуць увагу на даследаванне Ціхана Чарнякевіча, прысвечанае «нашаніўцу» Лявону Гмыраку.

**Магда ПАСКЕВІЧ**

# Халімон з-пад пушчы

## *Да 130-годдзя з дня нараджэння Яўгена Хлябцэвіча*



Анатоль Крывенка «Яўген Хлябцэвіч».

**У верасні 1915 года родны брат вядомага беларускага літаратуразнаўца, педагога, бібліёграфа і бібліятэказнаўца Яўгена Хлябцэвіча Уладзімір пісаў яму: «Усе сёлы гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там тваё ўсё. Закапвалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі схаваныя там, у скрынях. Я знаю дзе...».**

### НЯЗНОЙДЗЕНЫ СКАРБ

Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай школы Марыя Базылюк (Марыйка — як яе ласкава называлі вяскоўцы і беларускія літаратары ў Польшчы), яна ж даследавала творчасць Яўгена Хлябцэвіча, нават пісала ў Варшаўскім універсітэце магістарскую працу на тэму «Жыццё і дзейнасць Яўгена Хлябцэвіча на фоне перыяду «Нашай нівы».

Аднак лёс склаўся так, што гэтыя скрыні Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе, калі жанчыне было ўсяго 38 гадоў.

Цікава, што ж за рукапісы ляжаць у тых скрынях? Лісты якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул: з таго часу мінула 100 гадоў…

### СЫН КНІЖНІКА

Яўген Хлябцэвіч нарадзіўся 6 жніўня 1884 года ў вёсцы Жыровічы Слонімскага павета. Бацька яго, Іван Андрэевіч, быў даволі адукаваным чалавекам: спачатку ён выкладаў грэчаскую мову і латынь, потым арыфметыку і геаграфію ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы. Але галоўным яго клопатам і заняткам была мясцовая бібліятэка, дзе зберагаліся беларускія старажытныя кнігі з прыгожымі ілюстрацыямі і летапісы ў скураных пераплётах. Іван Андрэевіч Хлябцэвіч склаў і ўпарадкаваў падрабязны каталог, ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. А таксама пісаў — меў літаратурны талент. Выдаў некалькі брашур пра гісторыю Жыровіцкага манастыра, напісаў шэраг артыкулаў пра людзей, якія звязалі свой лёс з рэлігіяй. Іван Хлябцэвіч добра ведаў гісторыю Беларусі, даследаваў Жыровіцкія рукапісы. У бібліятэцы вельмі часта бываў яго сын Яўген.

У 1897 годзе сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе Іван Хлябцэвіч стаў працаваць святаром. Там ён арганізаваў некалькі пачатковых школ, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі. А Яўген Хлябцэвіч у 1900 годзе скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, затым — Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю.

### ВІЛЬНЯ, ПЕЦЯРБУРГ, МАСКВА

Жывучы ў Вільні, Яўген Хлябцэвіч пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй, актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Падтрымліваў цесныя сувязі і з рэдакцыямі беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва», дасылаў допісы, многія з якіх падпісваў псеўданімам Халімон з-пад пушчы. Найперш гэта былі артыкулы на тэму культуры і адукацыі. У 1906 годзе Яўген Хлябцэвіч стаў студэнтам Юр'еўскага ўніверсітэта, а праз год перавёўся ў Пецярбургскі ўніверсітэт. Тут ён рэдагаваў «Кніжны і бібліятэчны лісток» пецярбургскай газеты «Новая Русь», на старонках якой дапамог надрукавацца Янку Купалу.

Студэнтам Яўген Хлябцэвіч выступаў на Першым Усерасійскім з'ездзе па бібліятэчнай справе з дакладам «Развіццё бібліятэчнай справы на Беларусі». А калі закончыў універсітэт, працаваў інструктарам Беларускага пададдзела аддзела асветы нацыянальных меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР у Кіеве.

У 1919 годзе атрымаў новую пасаду — узначаліў бібліятэчнае аддзяленне Палітычнага ўпраўлення Рэўваенсавета РСФСР, а пасля перайшоў у Народны камісарыят асветы. З 1943 года Яўген Хлябцэвіч працаваў у Маскоўскім бібліятэчным інстытуце, шмат пісаў, абараніў кандыдацкую дысертацыю. У Маскве і пражыў свае апошнія гады. Не стала яго ў кастрычніку 1953 года.

### СЯБРОЎСКІЯ ЛІСТЫ

Яшчэ ў Пецярбургу Яўген Хлябцэвіч пасябраваў з Янкам Купалам. Паэт часта наведваў беларускія вечарынкі, бываў і на рэпетыцыях, удзельнічаў у рабоце беларускага студэнцкага навуковага гуртка, слухаў даклады пра Беларусь, часам чытаў свае вершы. Аднойчы Янка Купала перадаў Яўгену Хлябцэвічу верш «Прарок», прысвечаны гэтаму студэнцкаму гуртку.

Вельмі часта Яўген Хлябцэвіч і Янка Купала гулялі па ўзбярэжжы Нявы, бывалі адзін у аднаго ў гасцях. Іх апошняя сустрэча адбылася ў 1930 годзе ў Маскве ў камуністычнай акадэміі. Пасля трагічнай смерці народнага паэта Яўген Хлябцэвіч быў адным з першых, хто прыйшоў на дапамогу Уладзіславе Францаўне Луцэвіч у справе стварэння Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. Ды і пры жыцці Купалы Яўген Хлябцэвіч рашуча выступаў у абарону творцы ад шматлікіх несправядлівых абвінавачванняў вульгарнасацыялістычнай крытыкі 1930-х гадоў.

Пасля вайны ў беларускім друку з'явіліся ўспаміны Яўгена Хлябцэвіча пра паэта. Найперш гэта артыкулы «Янка Купала ў Пецярбургу», «Янка Купала на пецярбургскіх агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева», «Янка Купала і Пецярбургскі ўніверсітэт», «Пісьмо Янкі Купалы ў газету «Новая Русь» і ўдзел у ёй Л. М. Талстога».

У добрых адносінах Яўген Хлябцэвіч быў і з Якубам Коласам. Пазнаёміліся яны «завочна», калі першы працаваў выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума ў Кіраве. Падчас Другой сусветнай вайны Яўген Хлябцэвіч выступаў з лекцыямі ў шпіталях сярод параненых. Воіны-беларусы прасілі пачытаць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа на беларускай мове. Па дапамогу наш зямляк звярнуўся да Якуба Коласа. Народны паэт хутка адгукнуўся на просьбу Яўгена Хлябцэвіча. Яны сталі перапісвацца, і такое сяброўства працягвалася дзесяць гадоў.

Перапісваўся Яўген Хлябцэвіч і з Максімам Багдановічам. Як сцвярджаў даследчык творчасці Яўгена Хлябцэвіча Віталь Скалабан, «чатыры лісты Багдановіча да Хлябцэвіча захоўваліся напярэдадні вайны ў Акадэміі навук БССР. Мусіць, іх перадаў яшчэ ў 1920-я гады ў Інбелкульт сам адрасат Яўген Хлябцэвіч. Ці пакінуў ён копіі Багдановічавых лістоў у асабістым архіве? Адказаць на гэта пытанне пакуль цяжка...» (ЛіМ, 24 жніўня 1984 г.). А можа, копіі гэтых пісем, а таксама іншыя пісьмы Багдановіча да Хлябцэвіча ляжаць на дне тых 10 скрыняў, што закапаныя на беластоцкай зямлі?..

### ЧАС ПРЫСПЕШВАЕ

Да гэтых дзён пад адну вокладку так і не сабрана спадчына Яўгена Хлябцэвіча. А напісаў ён вельмі многа. У Коўне ў 1912 годзе выйшла з друку яго першая кніга «Бібліятэка і кааперацыя», дзе аўтар разгледзеў пытанні тэорыі і арганізацыі бібліятэчнай справы. У Пецярбургу свет пабачылі працы Я. Хлябцэвіча «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры» (1914), «Народніцкая паэзія беларусаў» (1917), у якіх малады крытык аналізаваў вытокі і характар беларускага мастацкага слова, даў высокую ацэнку творчым пошукам Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. У маскоўскіх выдавецтвах з'явіліся яго кнігі «Масавы чытач і антырэлігійная прапаганда» (1928), «Масавы чытач і праца з кнігаю» (1936).

Час прыспешвае выдаць працы Яўгена Хлябцэвіча па бібліятэказнаўстве, а таксама пакінутыя ім успаміны пра беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў, якіх ён ведаў і з якімі сябраваў. Варта было б і адной з бібліятэк на Слонімшчыне і Бельшчыне (Польшча) насіць імя слыннага слонімца Яўгена Хлябцэвіча.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

***ЛіМаграфія***



**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Рэцэнз-і-Я

У аддзел крытыкі часта прыходзяць лісты, аўтары якіх дзеляцца чытацкімі ўражаннямі: часцей — ад зборнікаў паэзіі, радзей — ад прозы. Няхай гэта прагучыць сентыментальна, але кожны такі ліст шчыра радуе, бо, па-першае, ён сведчыць пра цікаўнасць да літаратуры, па-другое — да нашай газеты.

Але ёсць тут і іншы бок (медаля ці палкі, пакажа час). Справа ў тым, што аўтары гэтых лістоў, сярод якіх можаце быць і вы, чакаюць, што допіс іх будзе апублікаваны. Нават больш — яны ўсур'ёз на гэта разлічваюць. Калі публікацыя не з'яўляецца доўгі час, самыя смелыя пачынаюць тэлефанаваць і пытаца, дзе ж мы згубілі іх рэцэнзію.

І вось тут трэба спыніцца.

Рэцэнзія. Многія блытаюць водгук ці школьнае сачыненне «на тэму» з жанрам рэцэнзіі, якая, нагадаю, з латыні перакладаецца перадусім як «ацэнка», хоць больш поўны варыянт убірае ў сябе і паняцце «водгук». Сапраўды, водгук і ацэнка складаюць аснову рэцэнзіі. Прычым — гэта вельмі важна! — менавіта ваш водгук і вашую ацэнку.

І асноўная праблема такіх рэцэнзій-лістоў у тым, што якраз-такі ацэнкі яны і не маюць — толькі апісанне ўражанняў ад прачытанага, захапленне, пералік рэгалій аўтара і г. д. А ў тых рэдкіх выпадках, калі ацэнка ўсё ж прысутнічае, яна нярэдка неаб'ектыўная (наколькі ўвогуле магчыма аб'ектыўнасць), і на гэта ёсць некалькі прычын. Першая — героямі такіх рэцэнзій часта становяцца землякі аўтараў, то бок, «крытык» разглядае творы добра знаёмага чалавека, і лагічна, што ён не хоча пакрыўдзіць аўтара і стараецца сказаць як мага больш добрых слоў. Другая — сантыменты датычна прадмета, пра які гаворыцца ў творы. Як сказаць, што верш слабы, калі гэты верш — пра твой родны горад? Трэцяе — неразвіты літаратурны густ у чалавека, які спрабуе свае сілы ў крытыцы. Гэта ўжо больш праблематычна: па-першае — выправіць густ цяжка, і ўвогуле існуе тэорыя, што гэта дар прыроджаны і выпрацаваць яго нельга; па-другое — паспрабуй давядзі, што ў некага няма літаратурнага густу.

Калі з адсутнасцю густу нічога не зробіш, то з першымі дзвюма праблемамі разабрацца лёгка. Варта зрабіць адну-адзіную рэч — уключыць самакрытычнасць.

Канечне, напісаць ідэальную рэцэнзію складана. Складана нават сказаць, якой яна павінна быць, але я паспрабую пералічыць некалькі крытэрыяў рэцэнзіі добрай. Мова яе жывая, а штампаў быць не павінна. Пажадана ўключыць «панараманае бачанне»: улічваць кантэкст, то бок іншыя творы таго ж аўтара, а таксама падобныя творы іншых аўтараў. Прыводзіць прыклады, цытаты, каб ваш чытач мог нечым падмацаваць давер, які, спадзяюся, ужо мае да крытыка. Пры гэтым трэба імкнуцца быць справядлівым, а не іранічна-з'едлівым (хоць часам бывае так цяжка!..) ці, наадварот, Цукрам Мядовічам. То бок, калі зборнік паэзіі, які вы разглядаеце, моцны, але ў ім ёсць два-тры прахадныя вершы, не засяроджвайце ўвагу адно на гэтых няўдалых момантах, хоць і абыходзіць маўчаннем іх нельга. І наадварот: калі пасрэдная, шэранькая кніга змяшчае два выбітныя радкі, не варта ўзнімаць аўтара да нябёсаў — паверце, гэта мядзведжая паслуга. Магчыма, гэты самы аўтар сапраўды здольны на вялікае, трэба толькі папрацаваць, але пабачыўшы вашую ацэнку, ён палічыць, што ўжо дасягнуў вяршыняў Алімпа.

Наступным разам мы працягнем гаворку пра рэцэнзію — і не толькі...

# Алесь Каско: «Бяда не ў тым, што мы пішам кепскія вершы...»



**Алесь Каско — паэт, перакладчык, навеліст, эсэіст, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова, прэміі «Берасцейская зорка». Алесь Канстанцінавіч сорак пяць гадоў прысвяціў стварэнню ўласнага свету — хоць бы і на аркушы паперы. Так выйшлі зборнікі паэзіі «Скразная лінія», «Набліжэнне», «Час прысутнасці», «45», «Трохкроп'е», «Нічога больш», «Прыадхінуты небасхіл», «Межавыя знакі» (разам з навеламі і дзённікам), а таксама кнігі для дзяцей «Чыстага ўсё нячыстае баіцца», «Два сонцы». Алесь Каско лічыць, што галоўнае ў творчасці — заставацца сумленным перад сабой. Ён не выказвае болей за тое, што ўвабраў у душу, чым жыў і жыве, на што здатны яго талент.**

**— Звычайна для паэта значным і знакавым становіцца месца яго нараджэння, край, дзе ён правёў дзяцінства. Ці можаце тое ж сказаць пра сябе?**

— Так, мая вялікая «малая радзіма» — вёска Чудзін Ганцавіцкага раёна — адыграла выключную ролю ў маім лёсе. Памятаю дзяцінства грыбным і ягадным барам, паводкаю Лані, што ўвесну зрывала масніцы ў хаце, бібліятэчнымі кніжкамі. Памятаю яго «зялёнаю школаю», куды ўцякаў ад занудлівых урокаў, ад надта строгага завуча Міколы Купрэева, які напрарочыў мне: «чалавека з цябе не будзе…» Мне вельмі пашанцавала, што я жыў побач з сапраўднай прыродай, якой не пабачыш у горадзе: сосны раслі каля хаты, на страсе чарот, ваўкі прыходзілі да нас на поле сярод белага дня. Нядзіўна, што на Палессі нарадзілася столькі казачнікаў, якіх лічу папярэднікамі і маімі, і маладзейшых калег. Ды і маё сапраўднае прозвішча — Казка, пра што я не здагадваўся аж да 28 гадоў. Даведаўся толькі тады, калі ўпершыню стаў аўтарам калектыўнага зборніка «Нашчадкі». Памятаю, як гэты паэтычны зборнік бацька пакруціў у руках і з крыўдай, а мо з папрокам спытаў: «Чаму ж ты не падпісаўся сваім прозвішчам?» А я, агаломшаны, паўтараў тое пытанне самому сабе… Ды бог з ім, прозвішчам, не яно ў рэшце рэшт вызначае аўтара.

Вёска дала мне магчымасць пабачыць не толькі цудоўную казку прыроды, але і пазнаёміла з багатай беларускай народнай творчасцю. Калі прыйшоў у першы клас — не ведаў, чым заняцца на ўроках, бо паспеў прачытаць усё, што запланавана школьнай праграмай да чацвёртага класа. Таму стаў актыўна браць кнігі ў бібліятэцы, што раблю і па сёння.

**— У 1971 годзе вы пайшлі служыць у войска. Расстанне з радзімай паўплывала на творчасць?**

— За два гады ў войску я напісаў дватры вершы, ды і тыя нідзе не друкаваў. Слабыя былі: не пісалася тады. Не хапала свайго асяродку. Затое калі вярнуўся дадому, з мяне вершы проста паліліся. Кіраўнік абласнога літаб'яднання Уладзімір Календік жартаваў: «Армія на карысць: трэба ўсіх маладых хлапцоў пасылаць туды…» І накіраваў мяне на рэспубліканскі семінар маладых літаратараў. Вось дзе была сапраўдная школа!

**— Алесь Канстанцінавіч, каго вы чыталі ў розныя перыяды жыцця?**

— Самымі любімымі заўсёды былі Максім Багдановіч і Міхаіл Лермантаў. У войску я не толькі перастаў пісаць на беларускай мове, але і думаць на ёй, і тады задаўся мэтай: вывучыць на памяць усе вершы Багдановіча. Палову памятаю дагэтуль. Лермантаў мне блізкі трагедыйным пачаткам у творчасці, зрэшты, як і Багдановіч.

**— Хто быў вашымі калегаміНастаўнікамі?**

— Перш за ўсё вучыўся ў Калесніка, яшчэ — у выкладчыкаў Ляшук, Карлава, Малажай, Майсейчыка. Сябраваў з Разанавым ды з іншымі хлопцамі-паэтамі: Пракаповічам, Зайкам, Гарбаруком. Аддаваў нярэдка свой студэнцкі ложак бадзягам Купрэеву, Кірэйчыку. Любіў, як і яны, віно, а яшчэ больш — кніжкі, якія мы чыталі і абмяркоўвалі па начах, бо многія з іх былі пад забаронаю, напрыклад, найцудоўнейшая манаграфія пра Максіма Багдановіча аўтарства Івана Замоціна, рэпрэсіраванага за беларускасць.

**— Калі і як узніклі вашы першыя радкі?**

— У шостым класе на ўроку беларускай мовы. Настаўніца дала заданне апісаць свайго сябра, я зрабіў гэта ў вершы: «Вася круціцца на ўроку, не сядзіць ніяк: то ўшчыпне суседку збоку, то балбоча, як сарока, то падскочыць, бы шчупак…» Мне сумна, што цяперашнія школьнікі зусім перасталі ствараць: скапіруюць сачыненне з інтэрнэту і сядзяць задаволеныя. Думаю, трэба перыядычна даваць ім творчыя заданні: то вершык скласці, то байку прыдумаць, то казачку напісаць — словам, знаходзіць будучых паэтаў, пісьменнікаў, даваць ім праявіцца. А потым прыкласці ўсе намаганні, каб талент у іх развіць.

**— З чым звязана ваша маўчанне паміж зборнікамі «Трохкроп'е» і «Нічога больш», якое працягвалася амаль дзесяць гадоў?**

— Напэўна, гэта быў своеасаблівы пераходны ўзрост. Прыступка паміж пяцідзесяццю і шасцідзесяццю. Але я ўпэўнены, што гэты час не правёў дарма: многа чытаў, перакладаў з македонскай, нямецкай мовы, рэдагаваў рукапісы сяброў. Тым больш я не баюся, калі не пішацца, галоўнае — каб душа не ператварылася ў пустыню. Не будзеш чытаць — яна засне, не будзеш сустракацца з людзьмі — зачарсвее.

**— Ці маеце творчы прынцып?**

— Мой прынцып — не выдаваць кнігу, калі яна горшая за папярэднюю. Праўда, ёсць вершы, якія хацелася б забыць, але, на жаль, надрукаванае застаецца. І бяда не ў тым, што мы пішам кепскія вершы, а ў тым, што іх друкуем.

**— Аркадзь Куляшоў пра паэзію пісаў: «Я вязень твой, а ты мая турма, асуджан я любоўю пажыццёва»... А як вы ставіцеся да паэзіі?**

— Паэзія для мяне і радасць, і бяда. Радасць ад таго, што табе дадзена выказаць сябе. Чаму бяда? Навошта праседжваць ночы за вершамі, траціць энергію і здароўе? У інстытуце я мог засядзецца да самай раніцы і не заўважыць гэтага. «Сягне радок у сон твой душны, і змусіць сэрца затрымцець, і ўзбудзіць кроў, і горла здушыць…» — калі радкі не душаць так, ты, мусіць, не паэт, а графаман і пішаш дзеля нечага: імя, грошай, статусу. Паэт калі і застанецца адзін у белым свеце, усё роўна будзе пісаць. А «публіку» ён знойдзе: хоць бы дрэвы ці птушкі.

**— Што маеце сказаць пра сучасную беларускую літаратуру?**

— Беларуская літаратура выключна багатая, як проза, так і паэзія, але, на жаль, наша літаратурная спадчына мала прапагандуецца. Няшмат крытыкі. Нават калі крытыкі і выступаюць, то складваецца ўражанне, што яны гуляюць у нейкія гульні з аўтарам: хто каго больш «падколе». Нестае аналізу, не абмалёўваюцца арыенціры.

**— Што б вы пажадалі маладым паэтам?**

— Натхнення і веры ў сябе. Калі здольнасці да творчасці праявіліся, ідзіце наперад!

Эльвіра ГАРОШКА

*Водгалас*

# Закладніца сярэдняга ўзроўню?

**Апошнія гады рэгулярна чытаю газету «ЛіМ», якая няблага замяшчае для пісьменнікаў адсутнасць літаратурных семінараў і спецкурсаў. Галоўны мой інтарэс — гэта стан актуальнай крытыкі, у якой аднолькава цікавым можа быць і сутыкненне поглядаў масцітых навукоўцаў-філолагаў, і спроба пяра актыўнага пачаткоўца.**

У беларускай крытыцы даўно наспелі праблемы, на якія немагчыма заплюшчыць вочы. І серыя артыкулаў, апублікаваных у «ЛіМе» на працягу апошніх месяцаў, мяне крыху абнадзеіла.

Алеся Лапіцкая і Анастасія Грышчук выступілі з артыкуламі «Дыягназ: эпігонства?» (№ 28), «За паўкрокі ад актуальнасці» (№ 30), «10 маленькіх відавочнасцей» (№ 33). Да маладых даследчыкаў далучыўся іх больш дасведчаны калега — паэт, загадчык аддзела прозы і паэзіі Віктар Гардзей.

Якія важныя акцэнты хацелася б вылучыць у гэтых публікацыях? «Праблемы сярэдняга ўзроўню сучбелліту» і творчасць «сярэдняга аўтара», шляхі ў літаратурную прафесію, абазначэнне пісьменніка-прафесіянала і пісьменніка-аматара, або так званага інсітнага мастацтва (хоць для мне больш звыклы тэрмін «прымітыўнае»).

Што насцярожвае ў гэтых артыкулах і што аб'ядноўвае ўсіх гэтых аўтараў? Зразумела, трывога і заклапочанасць адсутнасцю яркіх літаратурных імёнаў і, разам з тым, некантралюемае, як ядзерная рэакцыя, памнажэнне шырокага пласта твораў сярэдняй мастацкай вартасці, засілле шэрасці, пасрэдных і другаразрадных кніг.

Чаму апошнім часам так шмат людзей кінулася ў літаратуру? Што гэта за дзіўны феномен ці грамадская хвароба? Жаданне выдавацца любой цаной не было яшчэ ў нядаўнім мінулым. Гэта сцвярджаюць шматлікія сведкі і арганізатары выдавецкай справы, вопытныя пісьменнікі, рэдактары, спецыялісты кніжнага гандлю. Дарэчы, не толькі ў Беларусі, але і ў сумежных краінах назіраецца «пісьменніцкі бум», пры тым што грамадская роля пісьменніка зніжаецца, а тыражы мастацкіх кніг памяншаюцца.

Нездарма А. Лапіцкая ў артыкуле «Дыягназ: эпігонства?» ставіць знак роўнасці паміж эпігонствам і прадстаўнікамі далёка не першых шэрагаў «сучбелліту». «Сучбелліт» — так з лёгкай рукі аднаго вясёлага крытыка з'явілася таўро, якім узнагародзілі літаратуру нашага часу. Чым не знак сучаснай эпохі? Іранічны, самапрыніжальны…

Зніжэнне ўзроўню літаратуры — вынік укаранення маскульту ў масавую свядомасць. Размываецца паняцце літаратурнага густу — вытанчанага, выпрацаванага чытаннем класікі. Большасць спажывае прымітыўныя бульварныя раманы ды дэтэктывы. Прафесійных чытачоў мала. Верагодна, з асяроддзя непрафесійнай большасці, аматараў таго ж маскульту з'яўляюцца пасрэдныя пісьменнікі і паэты. Іх творчасць у лепшым выпадку задаволіць густ блізкага кола — сям'і, суседзяў, сяброў, якім «падабаецца», як гладка складае вершаваныя радкі іх «уласны» паэт.

Усё б нічога, калі б вытрымліваліся прапорцыі: сапраўдная літаратура з яе класічнымі традыцыямі, рэдкімі прадстаўнікамі высокага стылю, густу, жывой мовы — і масавая эпідэмія эпігонства ды графаманства. Але супрацоўнікі газеты «ЛіМ» ды іншых літаратурных выданняў вымушаны адбівацца, яны ўжо крычаць «SOS!», бо колькасць пустых тэкстаў, што абрынаецца на рэдакцыі, даўно перавысіла мяжу дазволенага.

Слоўнікі і энцыклапедыі запэўніваюць нас, што эпігонства ёсць неад'емная частка і ўласцівасць літаратуры любога перыяду. Ці так гэта?

«Часцей за ўсё распаўсюджванне эпігонства прыпадае на перыяды культурнага застою».

Жылі мы ў часы адлігі, «развітога сацыялізму»… Кожны час адрозніваўся сваімі прыкметамі: стылістыкай, модай — і літаратурай. Пісьменнікі адгукаюцца на самыя дробныя змены ў грамадстве, часта заўважаюць тое, што ляжыць не на паверхні, а хаваецца ў глыбіні. Яны выступаюць як празорцы і прарокі. Але гэта доля абраных. Складана назваць іншую прафесію, за якую можна было б узяцца так лёгка, як за літаратурную справу. Тут няма істотных бар'ераў і іншых абмежавальных цэнзаў, якія неабходна пераадолець таму, хто сур'ёзна выбраў шлях да майстэрства. Пішуць усё і пра ўсё, але мала хто чытае.

Маўчанне крытыкаў — вось яшчэ адзін злавесны знак нашага часу. Сёння ў літаратуру прыходзіць шмат самазванцаў, дылетантаў, людзей выпадковых, і гэта адбываецца на фоне маўчання экспертаў, меркаванне якіх раней паважалі. Маўчанне крытыкаў прыгнечвае. А яны ж павінны працягнуць традыцыі служэння Літаратуры — але ніяк не асобам, хай сабе ў нечым уплывовым.

На мой погляд, лепш заставацца добрым чытачом, чым лічыцца ў пісьменніках «сярэдняга ўзроўню». Бо да літаратуры асабліва пасуюць вядомыя словы: «Шмат пакліканых, ды мала выбраных».

Ірына ШАТЫРОНАК

# Аксана Аракчэева: «У складанага ёсць сінонім — вясёлае»

**За апошнія некалькі гадоў сярод работ кніжных графікаў, якія асабліва плённа працуюць над афармленнем выданняў для дзяцей, уражваюць здабыткі мастачкі Аксаны Аракчэевай. Кнігі, прачытаныя яе мастакоўскім мысленнем, выходзяць адна за другой у «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі», «Мастацкай літаратуры», Выдавецкім доме «Звязда». Таму менавіта Аксане захацелася задаць некалькі пытанняў наконт яе думак не толькі адносна кніжнай ілюстрацыі, але і ў цэлым пра дзіцячую літаратуру.**



Фота Наталлі Асмола

**— Звычайна мастаку, якога запрашаюць да афармлення кнігі, даюць заданне, інакш кажучы, у выдавецтве навязваюць сваю волю... Ці заўсёды вы бярэцеся за працу, якую прапануюць выдаўцы?**

— Зараз, прыходзячы ў выдавецтва забіраць заказ, я задаю адно пытанне: «Ці вясёлая кніжка?» І адразу кажу, што буду маляваць толькі ў сваім аўтарскім стылі. Не трэба мне, мяркую, навязваць сваё. Пагаджаецеся — працую. І менавіта так раблю: як я мяркую, як уяўляю, бо кожная мая кніга павінна адрознівацца ад іншых, быць стылістычна адметнай. І, паверце, гэта не ганарыстасць мастака, не праява звышамбіцый. Гэта асабісты досвед, толькі мой уласны, арыгінальны досвед… Цяжка было некалі працаваць з падручнікамі ў выдавецтве «Вышэйшая школа»… Там няма месца палёту фантазіі. Але… праца давала магчымасць гадаваць сына ў няпростыя 90-я. І я не магу не падзякаваць выдавецтву. Заўважу толькі, што сваю работу я старалася выконваць сумленна.

**— З цікавасцю гартаю, чытаю, праглядаю кнігі Тацяны Сівец, Генадзя Аўласенкі, Ніны Галіноўскай, якія вы праілюстравалі. Над якой з іх было найскладаней працаваць?**

— Да слова «складаная» ў мяне існуе сінонім — «цікавая»! Бо калі я сустракаюся з цяжкасцямі, то ўздымаюся ўсё вышэй і вышэй у творчасці. Пераадоленне цяжкасцей — вось што займае дух! У першай кніжцы «Брык і Шуся» Тацяны Сівец было складана (цікава) заахвоціць дзетак размалёўкамі, шарадамі, «хадзілкамі». Рабіла гэта ўпершыню. У кніжцы пра малпу Маню цяжкасць была ў тым, што амаль усё дзеянне адбывалася на адным месцы. Таму я змяняла ракурсы жывёл.

Калі прачытала вершы з кнігі «Звяры ў трамваі» Ніны Галіноўскай, адразу ўзнікла пытанне, як аб'яднаць тры зусім розныя часткі. Бо ў першай дзейнічаюць звераняты казачныя. У другой патрэбны маленькі дзяцей. А ў трэцяй зусім іншае — сучасныя дзеці ды іх бацькі. Але фантазія працуе адразу! Я пасяліла ў кніжку казачную сям'ю мышак, якія якраз і стварылі агульную прастору, паядналі кніжку ў адзін арганізм.

Генадзь Аўласенка і «Правілы паводзін…» на вадзе, у лесе, на дарозе, з агнём… Гэта ж цэлы серыял, які настойліва параіла б набыць для хатняй бібліятэкі ўсім бацькам. Тут трэба, каб дзіцячая кніжка не ператварылася ў занудліва-павучальны падручнік. Таму ўводжу смешныя драбнічкі.

Складаней (цікавей) за ўсё было працаваць з творамі Алеся Карлюкевіча. Бо зрабіла для сябе шмат геаграфічных і гістарычных адкрыццяў. Увесь мой стол быў завалены выданнямі пра жывёл, насякомых і пра розныя краіны. Час ад часу шукала інфармацыю ў інтэрнэце. Усе тры нашы з ім кніжкі атрымаліся рознымі. У кожнай — сваё жыццё.

Няпроста аздабляць і кнігі вершаў. Бо справа ад слупкоў трэба неяк закампанаваць ілюстрацыю. У 2013 і 2014 годзе зрабіла тры вершаваныя кніжкі розных аўтараў: Ніны Галіноўскай, Віктара Кудлачова і Яніны Жабко. Для кожнай шукала адметны падыход.

**— Што вас як кніжнага графіка больш цікавіць у дзіцячым кнігавыданні: народныя казкі, вершы, апавяданні, якія маленькіх вучаць жыццю, аўтарскія казкі ці нешта іншае?**

— Мне цікава ўсё! Народныя казкі я ператвараю ў сучасныя. У аўтарскіх казках адкрываю для сябе нешта новае. А кожная кніжка, якую я малюю, вучыць жыццю. Не наўпрост, канечне. Гэта добрыя адносіны да жывёл, любоў да бацькоў і роднай краіны.

**— Што б вы ўвогуле зараз сказалі пра сучасную дзіцячую літаратуру Беларусі? Наколькі яна, на ваш погляд, адпавядае запатрабаванням часу?**

— Лічу, што зараз цудоўнае становішча ў гэтым сэнсе. У маім дзяцінстве не было такога шырокага кола дзіцячых пісьменнікаў. А можа, проста было зашмат рускамоўных кніг з усяго СССР? І ўсё ж сёння менш праблем у пошуку новых аўтараў, адкрыцці новых імёнаў і кніг.

**— Ці ўзнікае жаданне ўзяцца за напісанне твораў для дзяцей? Пра што маглі б быць гэтыя кнігі?**

— Ёсць, канечне, задумкі. Ствары́ць свайго героя, як гэта зрабіў чэшскі ілюстратар і аніматар Здэнэк Мілер. Але бракуе часу. У мяне шмат розных казюрак, якія вандруюць з кніжкі ў кніжку: пчолкі, чмялі, вусені, слімакі… І яшчэ хачу зрабіць кнігу пра майго сабачку.

**— Азіраецеся на вопыт папярэднікаў — старэйшых беларускіх кніжных графікаў? Хто з мастакоў ранейшых дзесяцігоддзяў вам цікавы?**

— Я паважаю ўсіх. Не буду вызначаць кагосьці асобна, бо атрымаецца доўгі спіс. Але непасрэдны ўплыў на маю творчасць зрабіў чэшскі ілюстратар Адольф Борн. Яшчэ ў 1986 годзе ў кніжным магазіне «Дружба» я набыла кніжку «Лісіца-хітрыца» з яго малюнкамі. Пахвалюся: сёлета мне пашчасціла ў Празе пазнаёміцца з маэстра Борнам і нават пабываць у яго майстэрні. Ён прысутнічаў на вернісажы маёй выстаўкі ў чэшскай сталіцы і (не магу і зараз паверыць!) пахваліў мае ілюстрацыі!..

**— Аксана, а якія ў вас прыхільнасці як у чытача? Ці чытаеце фантастыку, прыгодніцкія раманы?**

— Не люблю ні фантастыку, ні прыгодніцкія раманы. Чытаю класіку — беларускую і рускую. У захапленні ад Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава, Уладзіміра Набокава і Аляксандра Пушкіна.

**— Вы шмат падарожнічаеце па свеце... Ураджанні ад тых вандровак трапляюць на старонкі дзіцячых кніг, якія вы афармляеце?**

— Калі працую над кніжкамі, думаю пра Беларусь. Нават калі малюю за мяжой. Думкі пра радзіму, як гэта ні пафасна гучыць, грэюць душу…

**— Чаго, на ваш погляд, не стае сучаснай беларускай дзіцячай кнізе — калі гаварыць пра яе паліграфічнае, друкарскае выкананне?**

— Тут у мяне шмат прэтэнзій. Я ўжо неаднаразова казала пра гэта на прэзентацыях, але амаль нічога не мяняецца. У першую чаргу заўвагі да мастацкіх рэдактараў, якія не толькі не прыслухоўваюцца да пажаданняў мастака, але нават часта і не запрашаюць яго, каб паспрачацца, абмеркаваць ці проста паказаць макет. Мне здаецца, іх не хвалюе лёс кнігі. А для мяне ўсе кнігі — мае дзеці. І таму за кожную я хвараю душою і сэрцам, нават некалькі разоў плакала, калі бачыла, што атрымалася… Разам са сваёй кнігай я пражываю жыццё! Сумую, калі праца над выданнем завершана.

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО**

# Не сумаваць!




Ведаеце, як стаць альпіністам? І чаму добра ўставаць з усходам сонца? Калі так, то зазірніце ў кнігу дзіцячага паэта Віктара Кудлачова «Прылятаюць ноччу сны», што выйшла сёлета ў Выдавецкім доме «Звязда».

Выданне прываблівае яркай вокладкай і адметнымі ілюстрацыямі, аўтар якіх — выдатная мастачка Аксана Аракчэева.

Тут ёсць вершы пра дзяцей, поры года, жывёл. Кніга навучыць маленькага чытача разумець гумар, займацца спортам, падрыхтуе да школьнага жыцця. Скорагаворкі дапамогуць дзеткам асвоіць вымаўленне складаных слоў. А яшчэ тут ёсць загадкі пра жывёл, расліны, транспарт ды іншыя звычайныя рэчы, што нас акаляюць.

Маляўнічая кніга «Прылятаюць ноччу сны» не дазволіць малому сумаваць. Пачытаем цікавыя вершы, паямркуем над загадкамі, пасмяёмся з жартаў і небыліц!

# У непрыкметным свеце




Хто сказаў, што гэты свет такі ўжо непрыкметны? Можа быць, уся справа толькі ў тым, што мы адмаўляемся яго бачыць? Вікторыя Сянкевіч у сваёй кнізе казак «Цікаўная вустрыца», што пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», раскажа маленькім чытачам пра гэты свет і яго законы.

Увага чалавека ў асноўным звернута на людзей, іх штодзённыя клопаты. Але мы забываемся пра тое, што, акрамя нас саміх, у свеце мноства не менш цікавых істот. Варта толькі прыгледзецца. Хто ведае, што нас чакае?

Галоўныя героі кнігі Вікторыі Сянкевіч — самотны ліст паперы, няўпэўненая ў сабе кляновая семечка, наіўны пугач і высакародны вітраж, матылёк, які атрымлівае асалоду ад імгнення, вустрыца, якая ўсім цікавіцца, амбіцыйная мыш, а таксама сярэбраная лыжачка. У кожнага з іх свой шлях, свая гісторыя.

Выданне напоўненае неверагодна прыгожымі і незвычайнымі ілюстрацыямі, якія яшчэ паўней раскрываюць гэты «непрыкметны» свет.

Дык чаго ж вы чакаеце? Разгортвайце кнігу!

**Ганна ЗАПЛЕЧНІКАВА, Анастасія ЛЯВІНСКАЯ**

# «Беларусі адданы я сын...»

**Ужо два дзесяцігоддзі прайшло з дня спачыну беларускага пісьменніка Сяргея Новіка-Пеюна (Сяргея Міхайлавіча Новіка) — чалавека надзвычай драматычнага лёсу, які каля дваццаці гадоў правёў у астрогах, лагерах, высылках. Жыццё таленавітага паэта, празаіка, перакладчыка, самаахвярнага патрыёта — прыклад любові да Айчыны.**



Сяргей Новік-Пяюн, як сведчыць уся яго творчасць і псеўданім Пяюн, умеў радавацца, спяваць: «Нібы птушка ў кустах, песню пеці я стаў...» — піша ён у адным з вершаў. І назвы паэтычных зборнікаў — «Заўсёды з песняй» (1984), «Зорачкі ясныя» (1986), «Песні з-за кратаў» (1993) — падкрэсліваюць нязломнасць духу гэтага чалавека.

Нарадзіўся Сяргей Новік-Пяюн у вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. У 1918 годзе паступіў у Нясвіжскую рускую гімназію, скончыўшы якую працягваў вучобу на беларускіх настаўніцкіх метадычна-педагагічных курсах у Вільні (1925 — 1926), дзе атрымаў званне народнага настаўніка. Будучы паэт актыўна ўключыўся ў барацьбу за нацыянальнае адраджэнне Беларусі.

У 1926 годзе ён арганізаваў у родных Лявонавічах беларускі народны хор, гурток ТБШ, беларускую бібліятэку і тайныя прыватныя школы (у сваёй і суседняй вёсках). За гэта быў арыштаваны польскімі ўладамі і высланы на пяць гадоў (1926 — 1931). Вяртанне ў родныя мясціны праз нейкі час суправаджаецца новым арыштам і высылкай пад нагляд паліцыі ў Слонім. У 1939 г. Новік-Пяюн трапляе ў турму г. Баранавічы, адкуль вызвалены Чырвонай Арміяй. У перадваенныя гады працуе інспектарам Слонімскага райаддзела народнай адукацыі, дырэктарам Слонімскага краязнаўчага музея.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў паранены. Разам з заснавальнікам музея археолагам Іосіфам Стаброўскім сабраў добрую бібліятэку для жыхароў Слоніма, схаваўшы ў патаемным месцы музея разрабаваныя гітлераўцамі кнігі, якія збіраліся накіраваць на кардонную фабрыку ў Альбярціне на перапрацоўку. На працягу двух тыдняў сябры разбіралі гару кніг, адбіраючы лепшыя, і ў вызваленым ад фашыстаў Слоніме ўжо праз месяц была адкрыта бібліятэка.

Працуючы ў музеі, паэт-змагар забяспечваў партызан паперай для лістовак, медыкаментамі, распаўсюджваў лістоўкі Саўінфармбюро. За антыфашысцкую дзейнасць ворагі асудзілі яго на смерць, адвезлі ў Калдычаўскі лагер (1943). Новік-Пяюн выратаваўся, прыкінуўшыся мёртвым. 3 ліпеня 1944 года разам з партызанамі вярнуўся ў Слонім, зноў працаваў дырэктарам Слонімскага музея. У самым канцы 1944 года паэта зноў арыштоўваюць. На гэты раз «свае». У сакавіку 1945 ваенным трыбуналам НКУС Баранавіцкай вобласці ён асуджаны на дзесяць гадоў пазбаўлення волі і адпраўлены на Калыму.

*За што ж мяне ў астрог ўсадзілі*
*І не чужыя, а «свае»?* — такое пытанне ўсё ж задасць паэт сам сабе ў няволі (верш «Ці не люблю я?»).

У Якуціі ён працаваў лесарубам, шахцёрам, драбільшчыкам руды. У 1958 годзе быў рэабілітаваны, пасля чаго вярнуўся на Беларусь. З 1960 года і да смерці жыў у Мінску.

Сяргей Новік-Пяюн пісаў не толькі вершы, але і музыку. У высылцы на Памор'і (1929) ён напісаў песню «Зорачкі», якая стала вельмі папулярнай на Слонімшчыне і Навагрудчыне. Палюбіліся слухачам і песні «Над Шчарай» («Слонімскі вальс») і «Не гудзе зялёная дуброва...» на словы С. Новіка-Пеюна. Апошняя, як справядліва заўважыў Алег Лойка, «стала песенным помнікам усім ахвярам Калдычава». Новік-Пяюн — аўтар песні «Сэрца, не плач!» да кінафільма «Боль мой — Хатынь» (1969) (паэт сам у ім здымаўся).

Сяргей Новік-Пяюн меў вялікі талент адчуваць і чуць чалавека, цікава распавядаць пра сустрэчы з вядомымі людзьмі. У гэтым можна пераканацца, прачытаўшы яго ўспаміны пра Я. Купалу, Г. Леўчыка, І. Стаброўскага, акадэміка Я. Карскага, генерала Я. Леашэню.

Цэнтральнай у творчасці Сяргея Новіка-Пеюна з'яўляецца тэма Радзімы, мовы, будучыні, асаблівасцей беларускага гістарычнага шляху. Шкада, што драматычная біяграфія паэта заўсёды крыху засланяла ад даследчыкаў яго творчыя набыткі, бо на рахунку С. Новіка-Пеюна шмат выдатных твораў — вершаў, п'ес, апавяданняў. Працаваў ён і ў галіне перакладу — пераствaрыў «Русалку» А. Пушкіна, «Першага вінакура» Л. Талстога, п'есу П. Салаўёвай «Цудоўная ноч», Ф. Аманькоўскай «Прадка над крыжам», «Як Божая Маці выратавала свет ад патопу» ды іншыя творы.

Творчая дарога С. Новіка-Пеюна пачалася ў 1925 годзе, калі ў часопісе «Студэнцкая думка» быў апублікаваны яго верш «Не бядуй». З гэтага часу ён актыўна друкуецца ў газеце «Беларуская крыніца», часопісах «Шлях моладзі», «Хрысціянская думка» ды інш. У 1927 годзе ў Вільні асобнай кніжкай выйшла яго п'еса «Ёлка Дзеда Мароза: калядны абразок у адной дзеі» (пад псеўданімам Малады Дзядок). Увогуле, Сяргей Новік-Пяюн шмат увагі надаваў хрысціянскай тэматыцы.

Лірычны герой вершаў паэта — інтэлігент, які любіць свой народ, Радзіму, маці, сям'ю, не саромеецца веры ў Бога. Ён услаўляе ахвярных дзеячоў і абуджальнікаў роднага краю, людзей духоўна моцных і непахісных. У паэзіі Новіка-Пеюна шмат радкоў-прызнанняў у любові да Радзімы, але яны не ўспрымаюцца як дэкларатыўныя, рытарычна-пафасныя.

Пейзажныя вершы Сяргея Новіка-Пеюна вылучаюцца шчымлівай лірычнасцю, свежасцю адчуванняў і перажыванняў улюбёнага ў родныя краявіды паэта («Восень залатая» (1944), «Белы снег» (1944), «Настроі» (1942)).

С. Новік-Пяюн аўтар і міжнароднага гімна эсперанта.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# Рэквіем

Безліч тэлевізійных перадач, публікацый у прэсе ды іншых праектаў прысвечана сёлета 100-годдзю пачатку Першай сусветнай вайны. Людзі імкнуцца захаваць памяць пра яе, як і пра ахвяр вайны, у тым ліку безыменных.

Так, захаванне памяці сталася адной з мэт унікальнай кнігі, што выйшла нядаўна ў Выдавецкім доме «Звязда». «Апошні прытулак салдата» — гэта напамін пра воінаў нямецкай, аўстра-венгерскай і рускай армій. Воінаў, пахаваных на тэрыторыі Беларусі.




Выданню кнігі папярэднічала вялікая шматгадовая праца, і цяпер кожны зацікаўлены чытач можа ўбачыць сабраныя пад адной вокладкай фатаграфіі і кароткія апісанні 170 месцаў воінскіх пахаванняў, што былі знойдзеныя ў Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай і Мінскай абласцях. У больш поўным спісе, аформленым у выглядзе табліцы, прыведзеныя звесткі пра 248 такіх пахаванняў. Населеныя пункты ў спісе размешчаны ў алфавітным парадку па абласцях і раёнах Беларусі ў адпаведнасці з сучасным адміністратыўна-тэрытарыяльным падзелам.

Кніга выйшла пры падтрымцы некалькіх арганізацый: рэлігійнай супольнасці «Прыход у гонар Усіх Святых у г. Мінску Мінскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы», Аўстрыйскага Чорнага Крыжа і народнага саюза Германіі па доглядзе за вайсковымі магіламі, а таксама пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, старшыня аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прымеркаваных да 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны Анатоль Тозік зазначыў ва ўступным слове да кнігі: «Упершыню за мінулыя стагоддзі нашчадкі салдат армій разбураных імперый могуць зірнуць на згубленыя ў часе і памяці рускія, нямецкія і аўстра-венгерскія магілы і сціплыя мемарыялы. Бетонныя і каменныя пліты дасюль захоўваюць імёны кайзераўскіх салдат, якіх тагачаснае кіраўніцтва Германіі кінула ў бясслаўны паход супраць Расійскай імперыі. Нямала ў кнізе фотаздымкаў магіл воінаў рускай арміі, некалі ўвянчаных драўлянымі крыжамі. Ад іх засталіся толькі ледзь заўважныя пагоркі, і ім дасталася доля называцца безыменнымі...».

Відавочна, кніга разлічаная і на замежнага чытача/даследчыка, бо ўсе тэксты дублююцца па-нямецку. Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь Вольфрам Маас звярнуў асаблівую ўвагу на тое, што кніга не змяшчае ніякіх ацэнак ці тым больш абвінавачванняў, як і апраўданняў з таго ці іншага боку. «Адно застаецца відавочным: усе загінулыя былі ахвярамі. Ахвярамі, па якіх смуткавалі бацькі, жонкі, дзеці, браты, сёстры, сябры і якія ў многіх выпадках знайшлі апошні спачын далёка ад радзімы».

З уступным словам выступілі таксама Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Сурыкаў, кіраўнік Інстытута імя Людвіга Больцмана па даследаваннях наступстваў войн (г. Грац) Стэфан Карнэр, протаіерэй, настаяцель Усіхсвяцкага прыхода г. Мінска Фёдар Поўны. Кожны з іх падкрэсліў надзвычайную важнасць кнігі «Апошні прытулак салдата», кожны выказаў спадзеў, што забытых магіл стане менш.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

*На паліцы*

# Славутыя перамогі

**Першае выданне з серыі «Славутыя бітвы» было прадстаўлена ў сталічным «Кніжным салоне». Гэта кніга Анатоля Грыцкевіча «Сцягі Оршы» (Мінск: Выдавецтва А. Вараксіна, 2014), прысвечаная вялікай бітве, што адбылася непадалёк ад Оршы, на полі, на беразе Дняпра, 8 верасня 1514 года.**

Падчас прэзентацыі выдавец Аляксей Вараксін распавёў, што першапачаткова праект планаваўся больш сціплы і камерны, але ў выніку атрымалася яскравае выданне з 55 ілюстрацыямі. Кніга змяшчае навуковы артыкул гісторыка Анатоля Грыцкевіча, у якім распавядаецца пра асноўныя калізіі і перыпетыі бітвы, расстаноўку войскаў Вялікага Княства Літоўскага і яго праціўніка — Вялікага княства Маскоўскага. Звяртае ўвагу аўтар і на значэнне бітвы, яе міжнародны рэзананс.




Мастацкі акцэнт у кнізе «Сцягі Оршы» робіцца на батальнай карціне «Бітва пад Оршай», якая сёння захоўваецца ў Варшаве. Імя яе аўтара нам не вядомае, аднак па яго рабоце бачна, што сам мастак быў відавочцам тых лёсавырашальных падзей. Дызайнер кнігі Зміцер Герасімовіч прапанаваў чытачам разгледзець павялічаныя фрагменты гэтай карціны — вобразы гетмана войска Вялікага Княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага, лёгкай, цяжкай кавалерыі, тактычныя манеўры войска ВКЛ і жудасныя карціны разгрому маскавітаў.

Кніга «Сцягі Оршы» стала першым выданнем серыі «Славутыя бітвы». У яе межах аўтары праекта плануюць знаёміць беларускіх чытачоў з найбольш значнымі баталіямі ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Бессмертные высказывания




Московское издательство «АСТ» при поддержке ООО «Харвест» спешит порадовать читателей серией «Самые остроумные афоризмы и цитаты». На данный момент в рамках проекта вышло около двенадцати книг. Несмотря на то, что сами издания не очень объёмные — всего 160 страниц, — в них скрывается глубокий смысл, самоирония, биографичность, философия и многое другое.

Одна из книг серии посвящена высказываниям Фаины Раневской. Великолепная актриса, самоироничный и очень остроумный человек. Многие знают её по фильмам «Пышка», «Золушка», «Подкидыш», но мало кто знает, что она ещё и мультфильмы озвучивала. В издании собраны самые колкие, мудрые и насмешливые цитаты и афоризмы великой актрисы. Они о её личной жизни, о спектаклях, случаях в стране, мужчинах и женщинах… Короткие, но такие ёмкие, они наверняка понравятся не только поклонникам таланта Раневской. Если у вас нет настроения, не задался день или просто скучно, то нет лучшего лекарства, чем эта книга.

Следующее издание серии содержит высказывания Юрия Никулина. Для кого-то он — любимый актёр, на счету которого более 40 фильмов и без которого нельзя представить хорошую советскую комедию. Для кого-то — пример для подражания. Юрий Никулин — один из самых открытых, не унывающих, веселых людей. Коллеги и близкие вспоминают его как человека, готового снять с себя последнюю рубашку, если это сможет выручить друга. Хотите узнать о великом актёре больше? Тогда вам стоит прочесть эту книгу — настоящее откровение Никулина перед читателем. Она содержит выдержки из личных записей и даже из дневника актёра. Такое простое, но в тоже время глубокое и местами трогательное содержание придётся по душе и заставит улыбнуться любого, кто возьмёт в руки это издание.

Ещё одна книга серии «Самые остроумные афоризмы и цитаты» включает высказывания Омара Хайяма. На счету этого великого человека масса открытий. Например, классификация кубических уравнений. В XI веке он создал календарь, которым и сейчас пользуются в Иране. Однако большинству Омар Хайям известен как автор четверостиший рубаи. В стихах Омара Хайяма присутствует изрядная доля юмора, лукавства, цинизма, дерзости и, самое главное, мудрости. Прочитав хотя бы одно четверостишье, каждый найдёт в нём, помимо смысла, заложенного автором, что-то своё.

Издатели не обошли вниманием и знаменитого австрийского психолога Зигмунда Фрейда. Новаторский взгляд Фрейда на философию и психологию вызывал массу споров среди учёных-современников, по сей день его методы разбирают, изучают и совершенст-




вуют. В книге серии «Самые остроумные афоризмы и цитаты» собраны фрагменты самых интересных работ замечательного психолога. Но не стоит забывать, что для грамотного прочтения трудов Фрейда нужна определённая подготовка, поэтому издательство рекомендует сборник людям не младше шестнадцати лет. Если вы готовы открыть для себя тайны любви, физиологии и сновидений в научном ключе, то это именно то, что вы искали.

Ещё одно издание, которое вышло в серии «Самые остроумные афоризмы и цитаты», — Сунь-цзы «Искусство войны». Этот трактат — самое известное древнекитайское произведение, посвящённое военной стратегии и политике. Книга издательства «АСТ» несколько упрощена и адаптирована для читателей лет двенадцати. Но это не значит, что старшему поколению она будет не интересна. Юноша, познакомившись с изданием, поймёт, что сила не только в кулаках, но и в разуме, дисциплине, а взрослый найдёт в книге стимул, чтобы воспрять духом, выдержать любые испытания.

В рамках серии «Самые остроумные афоризмы и цитаты» вышла и книга, посвящённая мудрости Конфуция. Это издание — кладезь философских и жизненных советов, объединённых двумя словами — «Наставник сказал». Ведь каждому из нас иногда так хочется, чтобы кто-то подсказал, как жить правильно… Понимая, что такого рода правила воспринимаются лучше в юном возрасте, издатели советуют читать эту книгу детям от двенадцати лет. Каждая страница наполнена не просто цитатами или афоризмами, а глубокой иронией, мудростью, здравомыслием и искренним юмором.

**Екатерина СТАСЁНОК**



# Эпохи своей герои

При поддержке ООО «Харвест» вышло несколько биографий знаменитых личностей.

Книга Игоря Оболенского «Четыре друга эпохи. Мемуары на фоне столетия» весьма необычна. По ней можно проследить историю самого значительного века в истории. Эта книга — откровение, она уникальна своей честностью и, порой, шокирующей правдивостью. Это сборник бесед, воспоминаний, письменных свидетельств, ответов на вопросы, многие из которых звучат впервые.

«Это не сборник интервью, так как наши беседы, как правило, выходили из привычного формата «вопрос — ответ», — пишет автор. Со многими он общался лично: Арменом Джигарханяном, Юрием Любимовым, Александром Васильевым. С другими героями, такими, как Владимир Маяковский и Сергей Есенин, автору встретиться не удалось по объективным причинам. Однако он проследил их яркие судьбы по архивным документам и мемуарам, исследовал большой пласт информации, который глубоко раскрывает характеры этих противоречивых героев. Двадцать четыре истории о двадцати четырёх талантливейших людях ушедшего века.

Работа над книгой длилась 17 лет, за которые многое изменилось. Но пронзительность




«настоящей» реальности, провокационные откровения делают сборник действительно ценным. На стенах кабинета Любимова, тоже вошедшего в историю, расписались все самые великие люди прошлого столетия, начиная от Юрия Гагарина и Фиделя Кастро и заканчивая Марчелло Мастрояни и Александром Солженицыным. Юрий Петрович прокомментировал это так: «Когда нам было приказано сделать переводы японских иероглифов здесь, мы ничего менять не стали. Я тогда сказал, что пока этот кабинет мой, всё будет так, как есть. А если уволят, то я за свой счёт покрашу стены белой краской. Сейчас, конечно, об этом речь не идёт».

Неординарной и талантливой фигурой нашего времени является российская певица Алла Пугачёва, которая в своей биографической книге эпатажно восклицает: «Я единственная звезда в России и совке. Такая у меня должность». «Я — Алла Пугачёва» — ещё одна книга, которая удивит своим содержанием. Далеко не каждый знает, что легендарная певица некогда работала учителем музыки в средней школе: «Большой эффект произвела её угроза просто побить тех, кто не будет слушаться. Ученики поверили и стали вести себя приличнее».

Книга описывает самые яркие моменты жизни и карьеры певицы, начиная с её первых занятий музыкой и до свадьбы примадонны с пародистом Максимом Галкиным. Совместная работа Аллы Пугачёвой со многими советскими музыкальными коллективами, её знаменитое творческое соревнование с Софией Ротару, выступление на «Евровидении», многочисленные работы в кино и на телевидении, бесконечные любовные романы — всё это можно найти в личной биографии любимой певицы целого поколения.

Среди новых биографических книг есть и рассказ о судьбе героя не нашего времени… Не зря историка и биографа Лина фон Паля заинтересовала персона одного из величайших русских поэтов. Увлекаясь оккультизмом и всевозможными загадками человечества, этот автор не мог пройти мимо жизненного пути Михаила Лермонтова — одного из главных — наряду с Гоголем — мистификаторов в русской литературе, жизнь которого описана на страницах биографии «Проклятие Лермонтова».




«Не удивительно, что биографам приходилось не проще, чем живописцам. Они пытались написать портрет его судьбы. И у всех получался «свой» Лермонтов». До сих пор судьба поэта окутана множеством тайн. Повсюду его преследовал злой рок, управлявший им до самой смерти. Стремительная жизнь, собранная по кусочкам, отрывкам писем, воспоминаниям друзей и недругов (самым могущественным из которых был император Николай Павлович), представляют нам «ещё одного Лермонтова».

5 частей книги — 5 периодов его короткой жизни, оконченной по велению злосчастной судьбы. Каков он был на самом деле — загадка. Одно известно точно: неудачи в личной жизни и далеко не привлекательная внешность не помешали поэту стать легендарной фигурой в литературном мире: «Смотрите: вот пример для вас! / Он горд был, не ужился с нами: / Глупец, хотел уверить нас, / Что Бог гласит его устами!».

Последней книгой в этом списке стали мемуары певца Фёдора Шаляпина «Маска и душа». «Чего это Шаляпин опять вздумал книгу писать? Лучше бы уж он пел…» — иронично отзывается о своём труде Фёдор Иванович. Он рассказывает свою жизнь, повествуя о бесконечной любви к «просёлочным дорогам, истоптанным лаптями любезных Вашему сердцу мужиков», и о сорокалетнем стаже исполнителя — «сорок лет сомнений и тревог, и восторгов, и недовольства собою, и триумфов — целая жизнь». Это история, в которую попадают и другие значительные люди. Ведь Шаляпин был «человеком мира».

Шаляпин описал свой жизненный путь с присущей ему иронией и теплом, превратив свою судьбу в записную книжку эпохи.

**Евгений СИНИЧЕНКО**

*Парады пачаткоўца*



**Ігар ПАЛЯКОЎ**

# Папяровыя кінакадры

Падаецца, многія хацелі б аднойчы ў жыцці марылі стаць рэжысёрам. Тут працуе і тая самая «магія кіно», якая вабіць чалавека патрапіць у гэты дзівосны свет. Прывабліваюць і жаданні зняць фільм лепш, чым гэта зрабіў нехта іншы. Напрыклад, па кнізе. Бо, праўда ж, колькі разоў, гледзячы экранізацыю, думалі: «Ну як так можна? Ну, гэта ж поўнае глупства! Кніга цікавейшая!»

Думаеце, гэта немагчыма? Усё магчыма! І для пісьменнікаў, і для чытачоў.

У мяне ёсць хобі: я люблю здымаць кіно. Занятак складаны, нервовы і дарагі, але двойчы мне ўдалося. Паколькі абодва фільмы рабіліся без якой-небудзь дапамогі прафесійных кінастудый, то мне даваўся перажыць усе этапы кінавытворчасці на сабе. І ведаеце, што я зразумеў? Здымкі фільма і пісьменніцкая праца — падобныя па тэхналогіі. Зразумела, для фільма трэба многае: каманда, акцёры, тэхніка. А для кнігі — толькі камп'ютар. Але ж па сутнасці рэжысёр і пісьменнік ствараюць візуалізацыі. Першы распавядае гісторыю праз паслядоўны шэраг кадраў. Другі прымушае гэта рабіць праз падрабязнае апісанне сюжэту — тыя ж кадры на паперы.

Прывяду прыклад з падручніка па рэжысуры Аляксандра Міты. Усе памятаюць гісторыю Ганны Карэнінай. А цяпер падумайце, як гэта ўяўляў сабе звычайны чытач Расійскай імперыі XIX стагоддзя, дзе чыгунка была знаёмая адзінкам. І тут нейкая дама заканчвае сваё жыццё... пад коламі цягніка. Якога такога цягніка? Гэта страшны жалезны монстр, які забівае бедную Ганну. Але класік падрабязна ўсё апісаў.

У рэжысёра ёсць акцёры, камера, дэкарацыі, спецэфекты. У пісьменніка — толькі фантазія і талент, з дапамогай якіх ён можа забавіць чытача ў атмасферу свайго «кіно». Далей таксама падобна. Рэжысёр прыступае да самай карпатлівай працы — мантажу. Адзнятыя сотні кадраў, дыскі, забітыя гігабайтамі відэа. Трэба ўсё прагледзець, яшчэ раз скласці ў галаве сюжэтную лінію і зманціраваць найбольш удалыя кадры. Зманціраваць так, каб ні на секунду глядач не страціў цікавасці. Вось тут і пачынаецца праца, якія называюць «пакутамі творчасці». Для захавання тэмпарытму даводзіцца выразаць кадры. Часта гэта моманты, якія падчас здымкаў падаваліся ўдалымі: з прыгожымі планамі, натхнёнай ігрой акцёраў. Але глядзіш шэраг на мантажы — падае тэмп, інтрыга, хочацца хутчэй праскочыць. Рэжаш!

З літаратурай тая ж гісторыя. Той самы, па сутнасці, мантаж. Тыя ж кадры, але на паперы, у выглядзе абзацаў і сказаў, якія ты «наздымаў» клавіятурай ці ручкай. О колькі разоў ты перачытваў свой тэкст! І спачатку ж ён здаваўся выдатным! Але раптам заўважаеш, што сюжэт неяк расцягнуўся, недзе «правальваецца» нелагічнасць, задоўгімі апісаннямі. Ах, якія ж яны былі добрыя! Рэзаць! Выдаляць!

Спрабуеш злавіць асаблівае гучанне карцінкі, яе плынь. Без падводных камянёў, без спатыканняў аб словы і гукі.

Але ж чытач таксама можа стаць рэжысёрам! Трэба проста схадзіць у краму і купіць сцэнарый — кнігу. Вы — рэжысёр, а пісьменнік — ваш сцэнарыст. Вы прабягаеце вачыма па паліцы і вырашаеце: «Ці не зняць фільм вось па гэтым сцэнарыі ў чырвонай вокладцы!» Дома, на здымачнай пляцоўцы з пледам і падушкамі, вы чытаеце старонку, другую, трэцюю. І ў галаве ажываюць малюнкі. Запрацавала кінакамера-мозг. Пасля апісання герояў рэжысёр ужо ведае, хто здымаецца ў яго фільме. Можна запрасіць любога акцёра — дазволіць сабе ўсё. Якія фінансы? Твой прадзюсар — твая фантазія! Ды і літары ўжо не літары, а кадры на паперы.

Камера. Матор. Чытаем!

*«Круглы стол»*

# Слова для малога

**Можна сцвярджаць, што сучасная дзіцячая літаратура сёння перажывае ўздым. Кнігі для дзяцей пішуць, іх набываюць, чытаюць. Спецыялісты нават падлічылі, што на ўзроўні папулярнасці такія выданні на прыступцы паміж масавым чытвом і раманамі. Але калі адысці ад камерцыйнага складніка і звярнуцца да пісьменніцкага і мастакоўскага аспектаў справы стварэння кніг для дзяцей, то ўзнікаюць зусім іншыя пытанні.**

Да прыкладу, адкуль дзіцячыя пісьменнікі ведаюць, як трэба пісаць? Як намаляваць ілюстрацыю да кнігі, якая не адштурхнула б маленькага чытача? Ці варта захоўваць у такіх выданнях дыдактычны аспект — вучыць ці выхоўваць з дапамогай літаратурнага твора? На гэтыя і многія іншыя пытанні шукалі адказы ўдзельнікі «круглага стала» «Несур'ёзная размова пра сур'ёзную літаратуру», што прайшоў у Мемарыяльным музеі-майстэрні З. Азгура.

— Каб пісаць кнігі для дзяцей, неабавязкова мець сваіх дзяцей. Дастаткова таго, што ты сам некалі быў дзіцем, — лічыць дзіцячая пісьменніца Вольга Гапеева. — Я добра памятаю сябе ў дзяцінстве і шмат чаго ў сябе малой «пазычаю» для свайго творчага амплуа. Магу сцвярджаць, што пішу кнігі, якія мне самой было б цікава чытаць, калі я была маленькая.

Крыху іншага меркавання прытрымліваецца пісьменніца і даследчыца дзіцячай літаратуры Вера Бурлак:

— Я прыйшла да высновы, што ёсць пісьменнікі, якія пішуць для дзяцей, абсалютна не разумеючы, што дзеці такія кнігі проста не будуць чытаць. Ёсць вельмі таленавітыя аўтары, якія проста хочуць гутарыць з маленькімі чытачамі, але ім гэта вельмі складана. Напрыклад, выдатны паэт Аляксандр Блок мае дзве дзіцячыя кнігі — гэта пакутлівыя спробы арганізаваць дыялог з іншапланетным чалавекам будучыні. Але, напрыклад, Данііл Хармс, чалавек з дзіцячымі паводзінамі, Карней Чукоўскі, якому ў старасці казалі, што ён як маленькі, маюць проста выдатныя кнігі для дзяцей. Мы з сынам мае тэксты фактычна пісалі разам, проста гутарылі, і падчас размоў вобразы, рыфмы ўзнікалі самі.

Дзіцячая літаратура мае некалькі ключавых адрозненняў ад кніг для дарослых. Па-першае, наяўнасць дыдактычнага моманту. Як бы пісьменнікі ні хацелі ад яго пазбавіцца, жаданне навучыць, распавесці, падказаць заўсёды будзе прысутнічаць у творах для дзяцей. Па-другое, важную ролю ў дзіцячых кнігах адыгрываюць ілюстрацыі. Без іх існаванне літаратуры такога кшталту было б проста немагчымае.

Аднак, па меркаванні мастачкі Марты Герашчанка, нельга ўявіць сабе кнігу для дзяцей, складзеную толькі з малюнкаў. Тут абавязкова павінен прысутнічаць тэкст:

— Тэкст дапамагае маляваць ілюстрацыі, без яго, па сутнасці, нiяк не абысціся. Усё залежыць ад узросту дзяцей, якім прызначаецца кніга. У асноўным кніжкі-малюнкі, якія ў нас усё часцей з'яўляюцца, прызначаныя для таго, каб бацькі чыталі дзецям. У цэлым жа маляваць для дзяцей вельмі складана. Малым не падабаюцца кнігі, намаляваныя так, як яны самі могуць. Увесь час трэба задаваць сабе пытанне: ці зразумеюць чытачы тое, што ты намаляваў. Вельмі добра, калі ў кнізе шмат дэталяў з жыцця. Да прыкладу, калі гаворка пра цацкі, то трэба маляваць канкрэтныя цацкі. Свет дзяцей дакладна-прадметны, яны не ўмеюць мысліць абстрактна. І вельмі важна, каб ілюстрацыя адпавядала тэксту, нейкім чынам суадносілася з сюжэтам ці распавядала пра герояў.

Удзельнікі «круглага стала» звярнулі ўвагу і на адметнасці гісторыі развіцця беларускай дзіцячай літаратуры. Вера Бурлак распавяла, што наша творчасць для дзяцей грунтуецца на рамантычнай традыцыі. Ва ўсходнееўрапейскіх літаратурах толькі ў пачатку XX ст. пачалі з'яўляцца заходнееўрапейскія элементы — праз пераклады, вынаходніцтва ўласных гульнёвых прыёмаў. Да Беларусі хваля мадэрнізму з рускай літаратуры не дайшла, польская эксперыментальная творчасць на наша мастацтва слова таксама не ўздзейнічала. Мы засталіся ў нейкай ізаляванай прасторы, дзе ўсё яшчэ панавала рамантычная традыцыя. Аднак сёння мы наследуем еўрапейскія здабыткі, але ўжо ў тым аб'ёме, у якім яны прадстаўленыя цяпер. Гэта адбываецца перадусім праз пераклады: іх назапасілася даволі шмат.

Падчас абмеркавання быў зроблены акцэнт на тым, што дзіцячая літаратура не мусіць быць выключна вясёлай і раднаснай, бо дзяцінства — гэта вельмі няпросты час. Першы паход у садок — культурны шок. Малым досыць складана наладзіць камунікацыю з аднагодкамі, дарослымі, пазнаць усе аспекты жыцця. Больш за тое, многія дзеці перажываюць сур'ёзныя псіхалагічныя траўмы — развод бацькоў ці смерць блізкіх. Таму малых трэба рыхтаваць да жыцця і пры дапамозе кнігі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Да казкі ў госці

Прэзентацыя новай кнігі беларускага паэта, лаўрэата шматлікіх літаратурных прэмій Уладзіміра Мазго «Завітала ў госці казка», якая пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», адбылася ў публічнай бібліятэцы № 5 г. Мінска.

На імпрэзе прысутнічалі вучні сталічнай сярэдняй школы № 10. Паэт не толькі чытаў свае творы, але і правёў конкурс загадак, пераможцы якога атрымалі прызы.

Новая кніга Уладзіміра Мінавіча складаецца з двух раздзелаў. Першы — «Пеўнікспеўнік» — змяшчае вершаваныя казкі пра жывёл і птушак. Маленькіх чытачоў чакае шмат займальных гісторый: «Урок для сарок», «Каплі для чаплі», «Жмуркі кошкі Муркі», «Адзінец», «Скок ды скок» ды інш.

Галоўная казка раздзела — «Прыгоды марахода». Цікавы факт: у дзяцінстве творца марыў стаць капітанам дальняга плавання. Мару здзейсніў герой казкі, кот-мараход, які вандруе на сваім караблі па свеце. Паўсюль яго чакае безліч незвычайных прыгод. Разам з чытачамі герой пабывае ў Антарктыдзе, Новай Гвінеі, на Мальце, Бермудах і нават у «нябесным» акіяне!

У другой частцы змешчаны цудоўныя пераклады замежных твораў. Загучалі пабеларуску некалькі казак народаў Аўстраліі, а таксама «Свінапас» і «Брыдкае качаня» Г. Х. Андэрсена.

Пісаць для дзяцей няпроста. Аўтару трэба мець сапраўдны талент і багатую фантазію, быць шчырым і адкрытым чалавекам. Творчасць Уладзіміра Мазго вылучаецца асаблівай дабрынёй, цеплынёй, любоўю да дзіцячага свету, таму яго казкі дзецям вельмі падабаюцца.

Кнігу аздабляюць прыгожыя і арыгінальныя малюнкі мастака Уладзіміра Сытчанкі. Выданне будзе цікавае аматарам казак усіх узростаў.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Цудоўны вечар

Традыцыйнымі сталі творчыя сустрэчы, якія праводзіць паэтычны клуб «Парнас» у мінскай публічнай бібліятэцы № 5. Госцем чарговай імпрэзы стаў паэт, крытык і літаратуразнаўца Алесь Бараноўскі.

На рахунку маладога творцы — тры паэтычныя зборнікі («Чуйнае акно», «Вясляр», «Дыяментавы німб для анёла») і навуковая манаграфія «За прамень схаплюся — і жыву!.. Творчая самабытнасць Ніны Шклеравай».

На імпрэзе «І ажываюць цуды ў вершах…» студэнты Мінскага архітэктурна-будаўнічага каледжа і ваенна-медыцынскага факультэта Белдзяржуніверсітэта задавалі шмат пытанняў. Асабліва захапіліся рознымі відамі вершаў: брахікалонам, хоку, таўтаграмай… Алесь Бараноўскі чытаў уласныя творы, распавядаў гісторыі з жыцця. Нарадзіўся Алесь на Гомельшчыне. Першыя вершы напісаў яшчэ ў школьныя гады. Цікава, што нават у сачыненнях будучы паэт заўсёды змяшчаў некалькі вершаваных радкоў. Алесь Бараноўскі ўпэўнены: самы лепшы верш не пішацца, а «нараджаецца» — стыхійна і нечакана, нібы цуд. Аўтар падкрэсліў, што галоўная тэма яго лірыкі — філасофская. У гэтым можна пераканацца, прачытаўшы яго вершы. Дарэчы, апроч паэзіі, у творцы ёсць і іншыя захапленні: кінематограф, фатаграфія і спорт.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# І святлее душа...

Падчас праваслаўнай выстаўкі-кірмашу «Радасць слова» ў літаратурнай гасцёўні «Сустрэча» Пружанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя М. Засіма адбылася сустрэча з беларускай пісьменніцай Аленай Міхаленка.

Гэта сапраўды была радасць спаткання з творчасцю, якая паяднала бібліятэкараў, навучэнцаў каледжа і сярэдняй школы № 3, пенсіянераў. Усіх кранула шчыры расповед пісьменніцы пра сваё жыццё і літаратурную дзейнасць.

Асноўная сэнсавая нагрузка ў казках, апавяданнях, вершах Алены Міхаленка ўскладзена на два словы: дабро і любоў. А што можа быць важней?

Працу настаўніцы фізікі ў адной са сталічных школ А. Міхаленка сумяшчае з пасадай галоўнага рэдактара духоўна-асветніцкай газеты «Воскресение». А яшчэ з'яўляецца рэдактарам серыі лепшых кніг сучасных аўтараў духоўна-маральнай тэматыкі «Сонечны зайчык», заснаванай у выдавецтве Беларускага Экзархата ў кастрычніку 2013 года. На сёння да друку падрыхтавана 17-я кніга! Гэта казкі, апавяданні, вершы для дзяцей рознага ўзросту. Многія з аўтараў ужо вядомыя літаратары, іншыя толькі заявілі пра сабе. Усіх аб'ядноўвае любоў да дзяцей і жаданне выхаваць маленькіх чытачоў разумнымі і добрымі.

**Ніна ШАБУНЯ**



Уладзімір Тоўсцік нарадзіўся ў 1949 годзе ў Мінску. З 1966 па 1972 гг. вучыўся ў Натана Воранава ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, пазней — у творчых майстэрнях Акадэміі мастацтваў СССР у Баку пад кіраўніцтвам М. Абдулаева. Больш за дваццаць гадоў з'яўляецца загадчыкам кафедры малюнка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.



*«Прага. Вечар на Карлавым мосце». 2013.*

# Гарадскія матывы

Персанальная выстаўка жывапісу «Чалавек і горад», прымеркаваная да "Дня горада" і да 65-годдзя народнага мастака Беларусі, прафесара Уладзіміра Тоўсціка, працуе ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі.

Палотны, прадстаўленыя ў экспазіцыі, гэта духоўны дыялог з прасторай і гісторыяй горада, і не толькі Мінска, але і Прагі, Кракава, Варшавы. Асабліва паказальнае для бачання аўтара палатно «Мінск 2012 года. Дзень горада», створанае на аснове дакументальных падзей, звязаных са святкаваннем юбілею вайны 1812 года. Героі твора — нашы суайчыннікі, мінчане і акцёры, пераапранутыя ў гістарычныя касцюмы тых гадоў: старабеларускія, рускія, польскія, французскія. Менавіта калажны прынцып пабудовы кампазіцыі дазваляе аўтару як мага больш расказаць гледачу пра тое, што яго хвалюе, злучыць практычна неспалучальнае: мінулае і сучаснасць, ірэальны свет успамінаў і вобраз канкрэтнага чалавека ў ім.

Карціны «Менск. Верхні рынак. Раніца», «Мінск. Губернскі сад» напісаны для аднаўленай сталічнай Ратушы. Усе гэтыя творы — пра горад і яго жыхароў, падзеі, якія можна ўбачыць толькі ў кіно і на старых, цудам ацалелых фотаздымках. Работы мастака сёння знаходзяцца ў памяшканні гарадской ратушы, канцэртнай зале «Верхні горад», у Палацы Незалежнасці, у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, інтэр'ерах Мірскага замка, Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і інш.

У. Тоўсцік шмат падарожнічаў па Беларусі і за мяжой. Уражанні ад паездак знайшлі адлюстраванне на палотнах. Але пра што б ні распавядалі карціны аўтара, іх настрой, колеравая гама застаюцца глыбока беларускімі.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# На камені, на палатне

Выстаўка «У алтара мастацтваў» Марыны Быкавай і Леаніда Башкова (Санкт-Пецярбург) працуе ў Цэнтры сучасных мастацтваў. Работы, прадстаўленыя ў экспазіцыі, адлюстроўваюць скульптуры знакамітага Пергамскага алтара — твора элiністычнага перыяду. Асноўная тэма рэльефных малюнкаў — бітва багоў з гігантамі.

— На першым курсе Санкт-Пецярбургскай мастацка-прамысловай акадэміі мне пашчасціла сустрэцца з выдатным выкладчыкам па графіцы і малюнку Леанідам Башковым. Калі я ўбачыла работы з серыі Пергамскага алтара на аргаліце ў майстэрні Леаніда Рыгоравіча, то прапанавала яму сумесны праект, але з выкарыстаннем іншага матэрыялу — палатно, — распавяла Марына Быкава. — Пасля эксперымента Леанід Рыгоравіч застаўся верны жорсткай аснове, а ў мяне з'явілася серыя работ на тэму Пергама, дзе эфект каменя атрымліваецца на палатне. Тканіна і камень, шоўк і жывапіс з фатаграфікай, аўтамабільная эмаль і сусальнае золата, шкло і металізаваная тканіна — мае сродкі апошняга часу.

У 1977 годзе Леанід Башкоў быў адзначаны за серыю партрэтаў гарнавых чарапавецкага ордэна Леніна металургічнага завода і серыі «Кіраўскі завод». Яго афорты — своеасаблівы летапіс заводскіх будняў. Адчуваецца павага мастака да сваіх герояў, якія знаходзяцца пад магічным уздзеяннем нараджэння металу. Мастак па дзве змены запар праводзіў у даменным цэху, выканаў сотні накідаў алоўкам, пяром і вуглём. «Маляваць даводзілася хутка, — узгадвае творца, — пазіраваць людзям няма калі, але любая іх пастава была неверагодна напружанаю». Гэты перыяд творчасці Леаніда Рыгоравіча непасрэдна звязаны з яго новай серыяй — «Пергамскі алтар». У ёй бітва тытанаў і багоў сугучная змаганню людзей з агнём. Мастак верны сваёй тэме, яго натхняе барацьба.

**Ганна ШЫМУК**



# Карункавыя аблокі ў шаўковым небе

**Выстаўка, прысвечаная заходнееўрапейскай модзе канца XIX — пачатку XX стагоддзя, адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Экспазіцыя прадставіла ўнікальную калекцыю жаночых сукенак, касцюмаў, галаўных убораў і аксесуараў са збору мастака, дызайнера і рэстаўратара Ігара Сурмачэўскага. Кожная рэч прыцягвае непаўторнай аўрай, ахутвае подыхам мінулага, якое ўвайшло ў гісторыю пад настальгічнай назвай Belle Époque, ці «выдатная эпоха».**

Антыкварыят дзіўнай прыгажосці і жаноцкасці «нарадзіўся» дзякуючы вядомым мадэльерам і швейным майстрам Заходняй Еўропы, Амерыкі і Расіі. Каля дваццаці модных камплектаў, якія раней належалі свецкім паненкам, выдатна захаваліся да нашых дзён. Жанчыны красаваліся ў гэтых уборах падчас сонечных ваннаў на свежым паветры, візітаў да суседзяў і сябровак, у рамантычным паўзмроку працяглых баляў.

Сярод старасвецкіх прадметаў гардэроба, якія склалі аснову экспазіцыі, — вытанчаныя бальныя сукенкі, «паветраныя» накідкі, візітныя туалеты, вясельныя ўборы, касцюмы для шпацыру. Усе яны выкананы з шыкоўных «каралеўскіх» тканін — аксаміту, тафты, натуральнага шоўку, саціну, аздоблены разнастайнымі аплікацыямі, бліскаўкамі, бісерам, стужкамі, фальбонамі і карункамі.



*Сукенка «Куль дэ пары» Францыя. 1880-я гады.*

Фота Кастуся Дробава

Нельга не звярнуць увагу і на прадстаўленыя аксесуары — сярэбраныя ці з пацерак сумачкі і рыдыкюлі, вышытыя кветкавым арнаментам, пальчаткі, парасоны ад сонца. Здаецца, усё гэта належала німфам ці анёлам, а не звычайным жанчынам! Прадметы з калекцыі Ігара Сурмачэўскага можна параўнаць хіба што з ювелірнымі вырабамі найлепшай агранкі.

Асобнага захаплення заслугоўвае абутак на невысокім абцасе, які захаваўся практычна ў ідэальным стане. Гэта боцікі, упрыгожаныя шнуроўкай альбо гузікамі, бальныя туфлікі з чорнага шоўку і тонкай скуры.

Уражваюць таксама дзіўныя па форме капелюшы, у ліку якіх — зімовы каптур са сцёганага шоўку колеру марской хвалі, рускі жаночы галаўны ўбор з лёну, паркалю, фольгі, срэбнай ніткі, рачнога жэмчугу і пацерак.

Мноства іншых цікаўных дробязей можна знайсці ў калекцыі. Напрыклад, баа са страусавых пёраў і шаўковай ніткі, тэатральныя біноклі з латуні, веееры з касцянымі пласцінамі, сярэбраныя люстэркі і пудраніцы, грабяні і заколкі, манікюрныя, парфумерныя і вязальныя наборы. Здзіўляюць старадаўнія лялькі з Цюрынгіі фірмы Арманд Марсэль, галовы якіх выкананы з біскiтнага фарфору, вочы — са шкла, а прычоска-парык набрана з натуральных валасоў.

Па словах куратара выстаўкі, вядучага навуковага супрацоўніка Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Алены Сянькевіч, Ігар Сурмачэўскі — апантаны збіральнік твораў выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, фатаграфій, дакументаў і прадметаў даўніны, звязаных з гісторыяй беларускіх земляў. Ён зрабіў каласальную працу, бо калекцыяніраванне старадаўняга адзення — справа вельмі цяжкая. Вырабы з тэкстылю патрабуюць асабліва асцярожнага догляду, пастаяннай рэстаўрацыі, старанна падабранага тэмпературнага рэжыму для захоўвання.

Усе экспанаты маюць сваю гісторыю, апісаную ў яго кнізе-каталогу «Дух часу і раскошы. Мода і стыль 1820 — 1920-х з калекцыі Ігара Сурмачэўскага». Вельмі рэдкі камплект адзення, пра лёс якога вядома шмат цікавага, — вясельная сукенка з Нью-Ёрка. Нявесту, якая насіла яе, звалі Марта. Захавалася нават фота маладой прыгажуні каля акна. Дзяўчына паходзіла з арыстакратычнай сям'і, а яе вяселле адбылося 13 верасня 1913 года. «Убор пашыты з шоўку і тонкага мусліна колеру «шампань», дэкарыраваны ірландскімі карункамі, шклярусам і жэмчугам. У ЗША ўборы гэтага часу называюць «Titanic Era» — гэта значыць жаночыя сукенкі эпохі «Тытаніка», распавядае калекцыянер у сваім выданні.

Выстаўка дазваляе ўбачыць, як выглядалі жанчыны таго часу. Але мала хто ведае, на якія ахвяры яны ішлі дзеля прыгажосці. Модным быў млявабалючы выгляд, бязважкі і чароўнапрывідны вобраз пры тым, што на балях трэба было праяўляць жвавасць і нястомнасць. Гарсэты даводзілася зацягваць так, каб стан быў не больш за 35 сантыметраў! Ці могуць сучасныя паненкі пахваліцца такой мужнасцю?

Прымеркаванае да святкавання Дня горада мерапрыемства прайшло ў рамках акцыі «Вераснёвы вечар у Мастацкім». Пазнаёміцца з экспазіцыяй можна да 13 лістапада 2014 года.



*Убор для вечара. Прага. 1895 г.*

**Марыя ВОЙЦІК**



# Кацярына Саладуха: «Шмат твораў пра адзіноту...»

**XI Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар. БДУ — 2014» набліжаецца да лагічнай развязкі. Пра самы яскравы форум, які стварае моладзь, распавяла дырэктар фэсту Кацярына Саладуха.**

— Кожны фестываль адрозніваецца ад папярэдняга, арганізатары заўсёды шукаюць, чым здзівіць аўдыторыю. Мы прайшлі дзесяцігадовы рубеж і заявілі пра перазагрузку. Асноўныя змены закранулі праграму, якая ў гэтым годзе аб'яднала ў тэматычныя блокі спектаклі як аматараў, так і прафесіяналаў, робячы акцэнт не на конкурсе, а, хутчэй, на пастаянным творчым абмене і ўзаемным прафесійным росце. Акрамя таго, цяперашняе мерапрыемства радуе гасцей новым праектам, прымеркаваным да 450-годдзя з дня нараджэння англійскага драматурга Уільяма Шэкспіра. У праграме «Шэкспір. Рэвізіт» прадстаўлены чатыры спектаклі (студэнцкія і прафесійныя), а таксама майстар-класы па п'есе «Макбет». Наш Шэкспір размаўляе на сучаснай мове. Пабудаваны па прынцыпе «ад Гамлета да Гамлета»: ад пастаноўкі «Гамлет. Прынц. PEACE» Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў да спектакля «Гамлет» Патыйскага дзяржаўнага тэатра імя В. Гунія (Грузія).

**— Хто ў складзе журы конкурсу?**

— Старшыня журы — Давід Мгебершвілі, тэатральны рэжысёр, мастацкі кіраўнік Патыйскага дзяржаўнага тэатра імя В. Гунія, выкладчык Грузінскага дзяржаўнага ўніверсітэта тэатра і кіно імя Ш. Руставелі. Члены журы: Джон Фрыман (Вялікабрытанія), тэатральны рэжысёр, педагог, кіраўнік тэатра і дацэнт факультэта выканальніцкіх мастацтваў Фалмуцкага ўніверсітэта; Таццяна Ратабыльская (Германія), даследчык тэатра і сучаснага танца, тэатральны педагог, міжнародны журналіст; Марцыя Тэдэскі (Італія), тэатральны рэжысёр, актрыса; Нэрыюс Гедмінас (Літва), педагог тэатра, рэжысёр, акцёр, выкладчык кафедры рэжысуры факультэта мастацтваў Клайпедскага ўніверсітэта; Таццяна Траяновіч (Беларусь), кіраўнік Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры, тэатральны рэжысёр, выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў; Радрыга Фішэр (Бразілія), тэатральны рэжысёр, акцёр, педагог. Кожны член журы павінен прадставіць сябе з мастацкага боку: адны будуць паказваць спектаклі, другія — праводзіць майстар-класы, трэція — удзельнічаць у «крытык-клубе» на які абмяркоўваюцца ўсе спектаклі.

**— Якім чынам спектаклі трапляюць на «Тэатральны куфар»?**

— У кожнай пастаноўкі свая гісторыя. Натуральна, аргкамітэт любіць запрашаць удзельнікаў сам, але вялікая колькасць заявак дасылаецца поштай. Для гледачоў гэта шанц за тыдзень пабачыць 15 спектакляў з розных краін свету. Цешыць, што ў гэтым годзе шмат тэатраў бяруць удзел упершыню.

**— Праграма фестывалю падзелена на тры групы: конкурсны склад удзельнікаў, пазаконкурсны і госці. З чым гэта звязана?**

— Такі падзел існуе больш для аргкамітэта, журы, крытыкаў, а для гледача галоўнае — сутнасць кожнага спектакля. Госці — запрошаныя прафесійныя калектывы. Конкурсную частку ўдзельнікаў складаюць студэнцкія калектывы, а пазаконкурсную — шоу-кейс «Куфар.by» — дасягненні студэнцкіх тэатраў, якія не ўвайшлі ў асноўны склад фестывалю: тэатры з Мінска, Полацка, Гомеля.

**— Якія тэмы пераважаюць?**

— Шмат твораў пра адзіноту, непаразуменне, немагчымасць кантактаваць у жывым асяроддзі. Мы ўсе карыстаемся інтэрнэтам, суткамі знаходзімся ў сацыяльных сетках, хаваемся за аватарамі, а ў сапраўдным жыцці губляем здольнасць камунікацыі. Другая тэма — сацыяльныя праблемы. Наколькі вайна тычыцца нас, нават калі мы не знаходзімся непасрэдна ў краіне, дзе яна адбываецца. Так, Украіна прывезла спектакль «Сіратлівы захад», дзе ёсць пра што думаць і пра што падыскутаваць. Толькі пастаноўка «Джаз» тэтра-студыі «На філфаку» вясёлая, усе астатнія складаныя: «Нясумны сад» Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, «У маім садзе вайна» прафесійнага тэатра з Грузіі, які прыехаў у другі раз, ды іншыя.

**Марына ЕЛІСТРАТАВА**

# «Куфар»: перазагрузка



Фота Івана Прышчэпы

*Сцэна са спектакля «Наперад, кацяня!» (Полацк).*

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Вярнулася праграма «ManoK» з двума монаспектаклямі (мужчынскім і жаночым): пастаноўка адкрыцця «Наташына мара» (Літва) і спектакль закрыцця «Мізантрафрык» (Бразілія), які адбудзецца заўтра. Апошні ўзнік пад уплывам рамана Сэмюэля Бэкета «Безназоўны». Пастаноўка, у якой рэжысёр і акцёр Радрыга Фішэр неверагодным чынам здзяйсняе вандроўку з тэатральнай прасторы ў кінематаграфічную, самастойна кіруючы святлом, гукам, камерай і праекцыяй. Рыхтуйцеся, спектакль пакідае незабыўнае ўражанне!

«Kufar-in-Motion» — адзін з традыцыйных праектаў, які ладзіцца не кожны год. Удзельнікі з розных краін аб'ядноўваюцца, каб за адзін фестывальны тыдзень паставіць невялікі спектакль, які дэманструецца падчас закрыцця. Сёлета праект ладзіць член журы з Вялікабрытаніі Джон Фрыман. Ён ставіць невялікі эпізод са сваёй поўнаметражнай п'есы «Прыгожыя сабакі». Пастаноўка закранае ўсе актуальныя праблемы. Вынікі «Kufar-in-Motion» розныя. Здаралася, што эксперымент ператвараўся ў паўнавартасны спектакль.

Увогуле, зведаўшы пэўныя змены, праграма «Тэатральнага куфра. БДУ — 2014» захавала і традыцыйныя моманты — галасаванне гледачоў пасля спектакляў. Такім чынам будзе абрана Гран-пры — «Вялікі Куфар». Як і раней, журы ацэньвае працы толькі студэнцкіх тэатраў (прафесіяналы выступаюць у якасці ганаровых гасцей) па шасці намінацыях: «Лепшая жаночая роля першага плана», «Лепшая жаночая роля другога плана», «Лепшая мужчынская роля першага плана», «Лепшая мужчынская роля другога плана», «Лепшая сцэнаграфія», «Лепшая рэжысура». З'явіліся і спецыяльныя намінацыі, у прыватнасці ад «Крытык-клуба» і генеральнага партнёра «Куфар.by».

**Таццяна ШЧЭРБА**



Фота Аляксандры Разувалавай

# Жар-птушка ляціць!

Першая прэм'ера новага, 82-га, тэатральнага сезона ў Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі мае стаць сенсацыйнай. 3 — 5 кастрычніка на сцэну пад музыку Стравінскага выляціць «Жар-птушка». Спектакль са знакамітых «Рускіх сезонаў» для беларускай публікі адновіць зорка сусветнага балета Андрыс Ліепа, які прапануе новы погляд на ўжо вядомыя спектаклі праз прызму сучасных творчых і тэхнічных магчымасцей.

Народны артыст Расіі супрацоўнічае з Вялікім тэатрам Беларусі на працягу апошніх гадоў. Паставіў тут балеты «Тамар» і «Шахеразада», якія таксама належаць класіцы рускага мастацтва пачатку XX ст. «Жар-птушку» ў 1910 г. авацыямі сустрэў Парыж, дзе на сцэне «Гранд-апера» адбылася прэм'ера гэтага балета.

Прэм'ера «Жар-птушкі» ў Вялікім тэатры адбудзецца ў межах міжнароднай праграмы форуму тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ». А 3 кастрычніка гледачоў чакае сюрпрыз: упершыню беларускай публіцы будзе прадстаўлена праца нашага славутага суайчынніка, дызайнера і дэкаратара Леона Бакста «Эскіз касцюма Жар-птушкі» з карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка, выкананая мастаком для арыгінальнай пастаноўкі спектакля. Дарэчы, набыты ў 2013 г. Белгазпрамбанкам на аўкцыёне «Christie's» «Эскіз касцюма Жар-птушкі» — адзіны твор сусветна вядомага мастака, прадстаўлены ў Беларусі.

Балетмайстар Андрыс Ліепа працуе над аднаўленнем спектакляў «Рускіх сезонаў». Ён вывучае іх гісторыю больш як 20 гадоў, каб паказаць сучаснай публіцы, што такое рускі балет пачатку мінулага стагоддзя. Андрыс стаў першым, каму было дазволена зазірнуць у асабісты архіў Міхаіла Фокіна, пастаноўшчыка і балетмайстра дзягілеўскай антрэпрызы. «Фокін вельмі шкадаваў, што пасля трыумфальных спектакляў у Парыжы Сяргей Паўлавіч, не параіўшыся з ім, пазбавіўся арыгінальных дэкарацый, — узгадвае Ліепа. Справа ў тым, што яны былі вельмі вялікімі, і наступныя тэатры, якія павінны былі прымаць спектакль, не маглі размясціць іх на сваіх сцэнах. Але засталіся ўспаміны Фокіна, яго кніга «Супраць плыні», у якіх ён усё дакладна апісвае, а таксама архіў, які стаў даступны толькі ў час перабудовы. З мастаком Анатолем Нежным па гэтых матэрыялах і тым, што ўдалося знайсці ў іншых архівах, мы аднавілі ўсё, што толькі было магчыма з мастацкага афармлення. А харэаграфія Фокіна захавалася амаль цалкам. Вынікам нашай працы стала прэм'ера «Жар-птушкі» ў Марыінскім тэатры ў 1993 годзе. Новае жыццё гэтага спектакля працягваецца, і тыя эмоцыі, якія адчулі гледачы парыжскай «Гранд-апера» ў 1910 годзе, праз стагоддзе змогуць перажыць і беларусы».

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

# Спектакль у квадраце

**У праграме IV Міжнароднага форуму тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ» частка «Belarus Open» — своеасаблівая прэзентацыя работ беларускіх творцаў.**

Напэўна, самы экзістэнцыяльны спектакль стварыў тэатр танца «KARAKULI» — «Адзін у квадраце». Пастаноўка на ўзроўні адчування, дзе візуальныя карцінкі звязаныя паміж сабой пачуццём жаху, распавядае пра недахоп любові ў нашай рэчаіснасці, адсутнасць еднасці, гармоніі, сэнсу. Чалавек ад пачатку адзінокі — адзін у квадраце. Падчас працы над спектаклем калектыў тэатра «KARAKULI» адштурхоўваўся ад формы, а не ад ідэі, таму асэнсаванне пастаноўкі прыходзіла не адразу.

— Спектакль «Адзін у квадраце» сугучны з тым, што я сама зараз перажываю ў жыцці. У ім шмат жывых сцэн, імправізацыі, акцёры маюць пэўную свабоду дзеянняў на сцэне. Наша пастаноўка не забаўляе, а нацэлена на павышэнне парога прадчувальнасці. Пажадана, каб глядач рэагаваў не толькі на яркія сцэнічныя моманты, але і на дробязныя рухі. Цікавей працаваць выходзячы з таго, што мы заваладалі ўвагай гледача. Спектакль адрасаваны кожнаму, — прызналася рэжысёр спектакля Вольга Лабоўкіна.

Экзістэнцыяльную лінію працягвае рэжысёр Наталля Леванава, якая стварыла спектакль «Па імені гаспадар» паводле аднайменнай п'есы нямецкага драматурга Філіпа Лёле. У сучасным свеце цяжка быць свабодным, кожны знаходзіцца ва ўласнай турме. Існуюць як знешнія, сацыяльныя, межы, так і ўнутраныя. Глабалізацыя, на якую зроблены акцэнт у пастаноўцы, прымушае чалавека марнаваць жыццё на тое, чаго ён рабіць не жадае, на непатрэбны аб'ём. Галоўны герой — чалавек, даведзены да роспачы і дэпрэсіі тым, што каштоўны як функцыя, а не як асоба.

Тэма адзіноты і непаразумення набывае новыя фарбы і працягваецца ў вечнай праблеме бацькоў і дзяцей. Маці імкнецца наладзіць стасункі са сваім сынам праз ананімную перапіску ў сацыяльнай сетцы. Гісторыя «Гэта ўсё яна!», якую стварыў аўтар п'есы і рэжысёр чыткі Андрэй Іваноў, заснавана на рэальных падзеях. Фінал адкрыты — кожны сам вольны выбіраць далейшы лёс герояў.

Матыў спрадвечнага вяртання блукае па сусветным мастацтве з часоў міфалогіі. Але ж, як сцвярджае наступная пастаноўка, вяртання не існуе. Алена Ганум распавядае пра сваю сувязь з абраным для спектакля раманам Альгерда Бахарэвіча «Шабаны»: «Назапашанае шукае выйсце, і тут адбываецца нешта містычнае, выпадкова трапляе ў рукі той твор, што «просіцца на сцэну». Паставіць гэты раман я вырашыла пасля доўгага пражывання за мяжой. Калі б нехта раней сказаў, што мне прыйдзецца жыць у іншай краіне, я вельмі здзівілася б. І дзівілася б яшчэ больш, калі б мне сказалі, што я вярнуся ў Беларусь. Галоўная ў пастаноўцы — тэма Радзімы, дзе гучаць праблемы эміграцыі і вяртання. Мэта — вырашэнне гэтых праблем праз эмацыянальнае ўражанне гледача ад усведамлення таго, што вяртання насамрэч не існуе, немагчыма вярнуцца. Як жыць сувымерна з часам, не стараючыся яго спыніць ці абагнаць? Адказы я шукала разам з маладымі акцёрамі, працуючы над сцэнічным увасабленнем рамана «Шабаны».

Галерэя рэдзі-мэйд аб'ектаў пад адкрытым небам «Стрытвокер» — сумесны праект славенскага тэатра «KUD Ljud» з цэнтрам эксперыментальнай рэжысуры — дапаможа паглядзець на звыклыя гарадскія аб'екты, на выпадкова знойдзеныя прадметы як на твор мастацтва. Гэта міжнародны праект, які ладзіцца ў розных гарадах Еўропы. Рэжысёр тэатра «KUD Ljud» Яшы Енула прыязджаў у Мінск з майстар-класамі — вынікам стаў спектакль «Стрытвокер». Рэдзі-мэйд — тэхніка, пры якой аўтар прадстаўляе ў якасці свайго твора пэўны немастацкі аб'ект. Галерэя «Стрытвокер» пашырае гэтае азначэнне. Экскурсавод спектакля, Аляксей Стрэльнікаў, раскрыў галоўную інтрыгу: «Насамрэч, у прасторы, дзе мы жывём, існуе вельмі шмат незвычайных і цікавых рэчаў. Для таго каб іх заўважыць, трэба зірнуць як на мастацтва. Калі б мы глядзелі на навакольны свет як на карціну, то, мяркую, больш любілі б і разумелі адзін аднога».

Спецыфічныя рэаліі нашай Радзімы знайшлі адлюстраванне ў тэатральным праекце Андрэя Саўчанкі «Бі-лінгвы». Чалавек знаходзіцца паміж дзвюх моў, двух сусветаў. Гэты спектакль — спроба ідэнтыфікаваць сябе ў сітуацыі двухмоўя. А. Саўчанка называе сваю працу «спробай дакумента»: «Тэкст, з якім акцёры выходзяць на сцэну, — дакумент. Гэта альбо ўнутраны маналог, альбо запіс аповеду чалавека. Мы прытрымліваліся дакументальнасці менавіта ў змесце, а не ў форме. Вельмі важная частка — абмеркаванне, падчас якога знікаюць водгукі, гледачы распавядаюць свае гісторыі, і для нас гэта больш важна за тое, з чым мы выходзім на сцэну, таму што новыя гісторыі могуць патрапіць у наступны паказ. Мы шчыра і адкрыта размаўляем з гледачом, мадэлюем рэальныя сітуацыі ў тэатральнай форме, ствараем дакумент, які б адлюстроўваў тое, чым мы дыхаем, альбо тое, чаго не заўважаем.

Шчырасць як мэту творчасці можна адчуць у спектаклі «Секунда» тэатра «SKVO's Dance Company». Першапачаткова была задума зрабіць імправізаваны вечар, эксперымент працы на сцэне з музыкантамі і танцорамі. Але падчас рэпетыцый з калектывам «PortMone» ўсё стала прымаць сур'ёзны, філасофскі фармат. Канцэпцыя «Секунды» вельмі простая: хлопчыкі іграюць, дзяўчынкі танчаць. Гэта маніфест з ярка выражаным жаночым пачаткам і яскравай мужчынскай асновай, якія на сцэне існуюць як адзіная тканіна, адзін арганізм. Завершанае выказванне супраць любога віду гвалту. Жанчына дае жыццё, і ніхто не мае права яго забіраць.

— Мы шукаем унутраную трансфармацыю. Гэта кухня кожнай гераіні, кожная перажывае асабістую ўнутраную трансфармацыю, якая знаходзіць выйсце ў створаных вобразах, і я не кантралюю гэты працэс, — адзначыла рэжысёр спектакля і кіраўнік «SKVO's Dance Company» Вольга Скварцова.

**Марына ЕЛІСТРАТАВА**

*Юбілеі*

# Вясёлы сябра галоўнага героя



*Фота з архіва ГАДТ*

*Фёдар Іваноў у спектаклі «Каханне пад вязамі».*

Заслужанаму артысту БССР Фёдару Іванову 20 верасня споўнілася 85 гадоў. Шэсцьдзясят гадоў на сцэне Гомельскага абласнога драматычнага тэатра… Хіба ёсць лепшы доказ вернасці сваёй справе? Артыст і сцэна — як адно цэлае: разам ідуць праз гады. Фёдар Мікалаевіч памятае, якімі былі спектаклі постсталінскага перыяду, хрушчоўскай адлігі, «хвацкіх» дзевяностых і не бянтэжыцца перад мітуслівай сучаснасцю.

Артыст нарадзіўся на Украіне ў вёсцы Гірсаўка Прыазоўскага раёна Запарожскай вобласці, аднак лёс прывёў яго на Беларусь. У сярэдзіне 1950-х у Гомелі быў пабудаваны новы тэатр. Высокі будынак з мармуровымі калонамі чакаў вяртання сваёй трупы, якая ў складзе Гомельскага тэатра рускай драмы часова працавала ў Магілёве. Акрамя таго, у сценах тэатра з'явілася вясёлая і гаманкая моладзь. Сярод размеркаваных студэнтаў быў і выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Фёдар Іваноў.

Дэбютнай для маладога артыста стала роля ў драме "Гады вандраванняў" па п'есе А. Арбузава. Потым быў бясконцы шэраг спектакляў, радасцей і перажыванняў. У творчай скарбонцы Ф. Іванова безліч роляў: Трахім («Прымакі») і Сцяпан Крыніцкі («Паўлінка») Янкі Купалы, Зайчык («Подых навальніцы» І. Мележа), стары («Ладдзя Роспачы» У. Караткевіча), Белагубаў («Даходнае месца» А. Астроўскага), Бобчынскі («Рэвізор» М. Гогаля), Пяцёркін («Васа Жалязнова» М. Горкага), настаўнік танцаў («Дурнічка»), Фернанда («Хітрамудрая закаханая») Л. дэ Вэга, Цыба («Змова Фіеска ў Генуі» Ф. Шылера), судовы прыстаў («Вар'яцкі дзень, або Вяселле Фігаро» Ж.-П. Бамаршэ) і шмат іншых. У юбілейны год Гомельскага драмтэатра Фёдар Іваноў выйшаў на сцэну ў прэм'ерным спектаклі «Каханне пад вязамі» па п'есе Ю. О'Ніла. Прызнаны майстар сцэны іграе вясёлага сябра галоўнага героя.

Асноўныя рысы яго персанажаў — лірычнасць і дасціпнасць, камедыйная ўзбуйненасць і народнасць. Кожная роля, нават невялікая, вабіць дасканаласцю, псіхалагічна распрацавана. У 1968 годзе «за заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва, за творчыя дасягненні» Фёдару Мікалаевічу прысвоена ганаровае званне заслужанага артыста БССР. У 2009 годзе Ф. Іваноў быў узнагароджаны нагрудным знакам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь «за высокі прафесіяналізм, асабісты ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва», у 2014 годзе — Ганаровай граматай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

**Мар'яна КАРЧЭЎСКАЯ**

# Дарункі лёсу

Актрыса, вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа Зінаіда Гурбо сёлета адзначыла 70-гадовы юбілей. А ў наступным годзе сустрэне яшчэ адзін — паўстагоддзя служэння выдатнаму творчаму калектыву, ды наогул сцэнічнаму мастацтву.



*Фота з архіва НАДТ імя Якуба Коласа*

*Зінаіда Гурбо.*

Адной з годных прадстаўніц старэйшага пакалення коласаўцаў давялося працаваць поруч з сапраўднымі карыфеямі тэатра — народнымі артыстамі СССР Аляксандрам Ільінскім і Фёдарам Шмакавым, народнымі артыстамі Беларусі Цімохам Сяргейчыкам, Анатолем Шэлегам, Іосіфам Матусевічам, Уладзімірам Куляшовым, Галінай Маркінай ды іншымі. Таму размеркаванне ў Коласаўскі пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута З. Гурбо лічыць дарункам лёсу.

Першай буйной роляй на коласаўскай сцэне стала нямецкая дзяўчына Брунгільда ў антыфашысцкім спектаклі «Гарачае лета ў Берліне» паводле папулярнага ў тыя часы рамана аўстралійскай пісьменніцы Д. К'юсак. Пазней былі Зося Савіч з «Сэрца на далоні» І. Шамякіна, Калугіна ў «Саслужыўцах» Э. Брагінскага, Э. Разанава ды іншыя.

Па сваіх акцёрскіх дадзеных — строгай постаці, выразным, багатым па тэмбры голасе, Зінаіда Гурбо — тыповая «сацыяльная гераіня». Мабыць, таму яна іграла шмат моцных, валявых жанчын, як кажуць, «з норавам». Заўсёднікі тэатра, пэўна, добра памятаюць яе фанабэрыстую, ганарлівую Ірэну з «Брыльянта» Е. Пшэздзецкага, строгую і бескампрамісную Галю (старшую дачку Калабка) з «Трыбунала» А. Макаёнка, мужную, высакародную лэдзі Глостэр з «Генры VI» У. Шэкспіра, разбэшчаную Наталі з «Кахання па перапісцы» Л. Вашко. Але іншым разам у гэтых жаночых гісторыях з'яўлялася журботная нота, калі актрысе праз вонкавую зацятасць, стрыманасць, валявую моц і самадастатковасць удавалася паказаць безабароннасць, неўладкаванасць і прагу да простага сямейнага шчасця сваіх гераінь. Узгадваюцца Агюсціна з дэтэктыва Рабэра Тама «Восем закаханых жанчын» — недарэчная, смешная, але кранальная ў сваім амаль дзіцячым эгаізме. Гіза з «Метамарфоз кахання» Іштвана Эркеня альбо Піскунова ў «Маленькім свеце» дэкларуюць сваю незалежнасць, дэманструюць браваду, але прагнуць кахання, душэўнай прыхільнасці.

Роля Бернарды Альбы ў аднайменным сумесным беларуска-балгарскім праекце, мабыць, — той вобраз, да якога актрыса рушыла ўсё жыццё. Пастаноўка — не зусім традыцыйнае прачытанне вядомай драмы Федэрыка Гарсія Лоркі. Яна ідзе на амаль пустой сцэне, што вымагае ад артыстаў асаблівай аддачы, канцэнтрацыі ўнутраных магчымасцей, умелага размеркавання сіл і эмоцый. Сюжэт спектакля — паступовы злом парадку рэчаў, які трымаецца на сляпой уладзе і бязвольным падпарадкаванні. Такі немінучы крах ад пачатку закладзены ў яго заснавальніцы — гаспадыні дома, дзе пануе цемра і страх.

**Юрась ІВАНОЎСКІ, тэатразнаўца**

# Камедыя масак, інтрыг і кахання

**Прэм'ера спектакля «Viva commedia!» адбылася ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Максіма Горкага. Праект, створаны італьянскім рэжысёрам Матэа Сп'яцы і драматургам Рыкарда Піпа, закліканы пазнаёміць беларускіх гледачоў з новым тэатральным жанрам італьянскай камедыі масак — камедыяй дэль артэ.**

Асаблівасць спектакля ў жанры камедыя дэль артэ — выкарыстанне масак, якія ўвасабляюць ідэю існавання архетыпаў. Ускладаючы на сябе маску, акцёры пераўвасабляюцца: мяняюць голас, жэсты і міміку так, як гэтага патрабуе персанаж, сціраючы, такім чынам, мяжу паміж уласным «я» і выдуманым героем. Камедыя дэль артэ мае ядро — пастаянных персанажаў — і зменных герояў, колькасць якіх залежыць ад мясцовых звычаяў і нораваў, ад густаў публікі і вынаходлівасці акцёраў. Галоўныя маскі ў спектаклі — два старыя — Панталонэ і Грацыяна, двое слуг, закаханыя пары і Капітан.

Ідэя паставіць спектакль з'явілася пасля майстар-класа і лекцый, якія М. Сп'яцы і Р. Піпа правялі для беларускіх артыстаў у красавіку гэтага года ў Мінску. Каб рэалізаваць праект, італьянскія рэжысёры і драматург павінны былі адказаць на пэўныя выклікі. Першы — прывіць беларускім акцёрам культуру ўзаемадзеяння з маскай, якая, паводле законаў жанру, дыктуе чалавеку манеру паводзін на сцэне. Другі — сумесна з акцёрамі стварэнне тэксту п'есы: хоць драматург Р. Піпа і меў рамачны сцэнарый з прапісанымі характарыстыкамі масак і сюжэтнай лініяй, традыцыйны тэатральны тэкст у спектаклі першапачаткова адсутнічаў. Яго сумеснымі намаганнямі стварылі акцёры, драматургі і выкладчыкі італьянскай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. І, нарэшце, трэцім выклікам сталася неабходнасць адаптаваць італьянскія персанажы для беларускай публікі.

— Ідэі нараджаліся падчас рэпетыцый. Мы разам імправізавалі, вечарам я запісваў тэкст, ноччу адсылаў матэрыял перакладчыку, а раніцай гатовы сцэнарый выдаваўся акцёрам, — падзяліўся сакрэтамі творчага працэсу Рыкарда Піпа.



*Фота з архіва НАДТ імя М. Горкага*

*Сцэна са спектакля «Viva commedia!».*

Дзеянне камедыі адбываецца ў самым рамантычным горадзе свету — Венецыі, дзе сонца, мора, сэрэнады, таямніцы, інтрыгі і нават карнавал! Багаты венецыянскі гандляр Панталонэ (Сяргей Чэкерэс) назапашаны за ўсё жыццё грошы перавёў у золата і брыльянты і схаваў у скарбонку. З тых часоў стары жыве двума пачуццямі: запалам да свайго скарбу і страхам за яго. Каб абараніць багацце, Панталонэ вядзе такое адасобленае і аскетычнае жыццё, што нават манастырская келья здалася б Версальскім палацам. З дня ў дзень адно і тое ж: ён шчаслівы, калі зарабляе, і ў жаху, калі губляе: усё жыццё гандляра — у скарбонцы. У яго дачкі Ізабэлы (Іна Савянкова) таксама ёсць сакрэт: яна цяжарная і не ведае, ад каго. Скарб Ізабэлы зарадзіўся падчас карнавалу, ад віна і ўсмешкі. У Панталонэ ёсць служанка Каламбіна (Алена Дуброўская), на якой трымаецца ўвесь дом. Яе неміласэрна б'е гаспадар, але яна цярпіць жорсткасць скупога старога і захоўвае сакрэт Ізабэлы. Вядома, ёсць і закаханы малады чалавек — Чынцыа (Уладзімір Глотаў) — вечны студэнт і ўтрыманец, сын доктара Грацыяна (Андрэй Крывецкі). Апошні ў пошуках другой маладосці сапернічае з сынам за руку Ізабэлы і гатовы ўзяць дзяўчыну за жонку нават без пасагу. Ёсць яшчэ і Дзані (Аляксей Сянчыла) са сваім гаспадаром, замежным Капітанам (Алег Коц), гулякам і марнатраўцам, што шукае лёгкага і даступнага кахання. Камедыя яшчэ раз пацвярджае старую ісціну пра тое, што ў адзіночку нельга быць сапраўды багатым. Калі шчаслівы толькі ты адзін — які ў гэтым сэнс?

Спектакль эмацыйны, дынамічны, смешны, поўны добрага настрою і творчага палёту таленавітай трупы НАДТ імя М. Горкага. Нельга не адзначыць віртуозна імправізацыйную гульню Сяргея Жбанкова ў ролі Арлекіна, слугі доктара Грацыяна, а таксама энергію Алены Дуброўскай — Каламбіны. Цікавы факт: гістарычна складзена, што ў камедыях дэль артэ ўсе акцёры ў масках, акрамя закаханых. Нечакана было ўбачыць знакамітага героя-палюбоўніка заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Сяргея Чэкерэса ў ролі старога і скупога Панталонэ. Вобраз атрымаўся ўдалым, гульня — эмацыянальнай.

Пасля прагляду «Viva commedia!» можна з упэўненасцю гаварыць: на ўсе пастаўленыя пытанні беларуска-італьянскі тандэм знайшоў адказы! У выніку сумеснага тэатральнага эксперымента Панталонэ загаварыў з адэскім акцэнтам, а Капітан і Дзані сталі абменьвацца фразамі на літоўскай і польскай мовах, як заўзятыя беларускія турысты. У той жа час спектакль захаваў і спрадвечна італьянскія рысы: рамантычную гітарную музыку, спевы на італьянскай мове, фразы на латыні, абвешчаны культ ежы, карнавальную весялосць.

Моцны бок экзатычнай для беларусаў пастаноўкі — у яе лёгкасці і засяроджанасці на галоўным — уменні жыць «тут і цяпер».

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Намёкі ды відавочнасці

**Выстаўка «Пасля лета» адкрылася 19 верасня ў Мастацкай галерэі «ЛаСандр-арт». Карціны Васіля Матусевіча і Валерыя Песіна, зусім розныя па жывапіснай манеры, але аб'яднаныя адной тэмай, склалі аснову экспазіцыі.**



*Песін Валерый «Лета. Правінцыя». 2014 г.*



*Васіль Матусевіч «Апошні прычал». 2003 г.*

Адчуваннем лёгкай меланхоліі, успамінамі пра бесклапотны, поўны шчасця і цяпла час прасякнуты палотны аўтараў.

«Гледзячы на карціны, можна пачуць шэлест балтыйскіх хваляў, а праз хвіліну — узгадаць крымскія санеты Адама Міцкевіча. У творах няма сур'ёзнага і цяжкога наратыву, які не патрабуюць акадэмічных тлумачэнняў. Кожная работа — гэта вялікая прастора для ўяўлення», — адзначыў беларускі мастак, літаратар, мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.

Карціны Васіля Матусевіча, дзякуючы сакавітым колерам і матэматычна дакладным графічным лініям, выглядаюць рэалістычна і выразна.

Лейтматывам яго прац, прадстаўленых у галерэі, з'яўляюцца караблі — сімвалы свабоды і рамантыкі. Аўтар мае на мэце падзяліцца з гледачамі сваімі эмоцыямі, узняць ім настрой, адцягнуць увагу ад будзённых праблем. Творца мае грунтоўную адукацыю: ён скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава і Беларускую акадэмію мастацтваў. Працуе ў галіне манументальнага жывапісу, займаецца стварэннем вітражоў, дэкаратыўнымі роспісамі, габеленамі, дызайнам інтэр'ераў. У прыватных калекцыях Швецыі, Японіі, Ізраіля, Балгарыі і нават Цэйлона можна знайсці яго цудоўныя карціны.

Жывапісныя вобразы Валерыя Песіна, яшчэ больш паветраныя і лёгкія, увасабляюць прыроду Італіі. На яго палотнах — ледзь улоўныя контуры дамоў, ахопленых дзённай спёкай ці аблокі ў абдымках ветру. Сімвалізм малюнкаў дазваляе гледачу тлумачыць творы па-свойму. Але ўсе без выключэння карціны пакідаюць у душы след гармоніі і спакою. Здаецца, што кампазіцыі нараджаюцца ў аўтара спантанна, штохвілінна і ад таго яны такія празрыстыя, кволыя. Валерый Песін — мастак-самавучка з няпростым лёсам, які змяніў шмат прафесій перад тым, як прысвяціць жыццё творчасці. Поспех спрыяе таленавітым: яго персанальныя выстаўкі праходзілі не толькі на Беларусі, але і ў Германіі, Галандыі, Польшчы, Расіі, Швецыі.

Пазнаёміцца з экспазіцыяй «Пасля лета» і гарантавана палепшыць настрой можна да 18 кастрычніка.

**Марыя ВОЙЦІК**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2320.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.09.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3723.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686